№ 41 (878) 5 лістапада 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ … ГАЗЕТА

Заснаваная ў ліста… 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрые… …ыднёва, у серады

Кананізацыя Францішка Скарыны? **Старонка 12.**

Хлопчык Ян прыйшоў на Дзяды ў Мінску разам з бацькамі. Мне важна бачыць, што мы не адны, што памяць застаецца, што мы беларусы, кажа ягоны тата. **Старонка 2.**

ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

# РАСЦІ, ЯНКА!




**Dozari прапануе наведнікам «Пуціна на ўсю ноч»** Старонка 6




**Топ-10 самых прыгожых і непрыгожых катэджаў чыноўнікаў у Драздах** Старонкі 4-5



## Новая старая вежа

Кансервацыя змяніла выгляд замка ў Навагрудку. Знакавы сілуэт будзе іначшым. **Старонка 9.**

# Чаму вы прыйшлі на Дзяды

Веснавы дзень памяці продкаў называецца Радаўніца, восеньскі — Дзяды. У адных мясцінах Беларусі была традыцыя адзначаць яго вясной, у іншых — восенню, у некаторых — і вясной, і ўвосень. Дзяды адзначаюць з 1 на 2 лістапада.

У Мінску на Дзяды прайшло традыцыйнае шэсце ў Курапаты. На сайце NN.BY вялася жывая трансляцыя з вуліц Мінска. Людзі расказвалі, чаму прыйшлі.



«Трэба шанаваць сваіх продкаў. Калі людзі забудуць сваю гісторыю, то мы будзем не народ, а народзец, як кажа адзін чалавек, — распавядае нам Сяржук, хлопец у шаліку-арафатцы і кепцы. — Я рабочы, звычайны рабочы. І патрыёт, лічу сябе нацыяналістам».



«Ледзь не ў кожнай беларускай сям'і хтосьці быў рэпрэсаваны пры Саветах. У нас вось дзеда спалілі жыўцом на спіртзаводзе. Замкнулі дзверы на начной змене і падпалілі, каб пасля была нагода распачаць рэпрэсіі ў пасёлку», — расказвае інтэлігентная жанчына, што нясе жоўта-блакітны і белачырвона-белы букеты.

«У майго мужа таксама загінулі і дзед, і дзядзька, магчыма, нехта з іх ляжыць у Курапатах, бо апошні след іх вёў у мінскую турму, — працягвае яна. — Таму мне ёсць да каго туды ісці, у Курапаты. Курапаты — гэта як сімвал нашай трагедыі. Мемарыял павінен быць дагледжаны. Калі ён такім стане, то і краіна стане іншай, станем паіншаму жыць. Змяніцца павінны мы самі, нешта ў нас. Усё залежыць ад нас. А пакуль нешта з намі не так.

Матрыца пакуль застаецца, і зло плодзіцца і плодзіцца. І засмат зла ў нашым грамадстве. Але час ідзе, чалавецтва ідзе да лепшага, таму і мы зменім нашу краіну.



Дзяды ў Мінску, 2 лістапада.



На могілках у Барунах (Ашмянскі раён), 1 лістапада.

А сёлета я нясу кветкі колераў украінскага сцяга, каб ушанаваць памяць нашых сяброўукраінцаў, бо там людзі гінуць за незалежнасць».



«Чаму Вы прыйшлі на Дзяды?» — «Бо я беларус і гэта мая культурная спадчына. Дзяды, 25 Сакавіка — гэта святы, якія павінны ведаць усе беларусы», — адказвае малады хлопец з надпісам «МФ Гомель» на твары.

Разам з сябрам ён нясе крыж, каб паставіць яго ў Курапатах. Усяго прынеслі туды пяць крыжоў сёлета.



«Хаджу на шэсце, бо мне важна бачыць, што мы не адны, што памяць застаецца, што мы беларусы. Раней я сам хадзіў, а цяпер ужо з сынам хаджу», — кажа ўсмешлівы малады мужчына, які прыйшоў з сынам гадоў шасці.

Валя і Уладзь Яроменкі таксама прыйшлі са сваёй маленькай



дачкой Арынай. «Мы хочам, каб яна прывучалася да шэсцяў, да сцягоў, да нацыянальных колераў. Каб яна мела памяць пра нашых продкаў», — кажа Валя.



«Дзяды — гэта нацыянальнае свята, і я лічу, што трэба таксама выказаць салідарнасць з Украінай. Я напалову беларус, напалову украінец, таму для мяне гэта важна», — кажа малады мужчына і насаджвае на флагшток спачатку беларускі, а за ім украінскі сцяг.



«Пераемнасць пакаленняў, памяць, гісторыя, мова — гэта рэчы, на якіх трымаецца нацыя. І калі нашы суседзі, наш братні народ перажывае такі цяжкі час — гэта адзнака салідарнасці, тое, што тут згадваюць Украіну», — сказаў нам Павел Севярынец, лідар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

А якая была рэакцыя людзей на вуліцах?



«Тут ідуць у Курапаты. Мы самі на могілкі хадзілі ўчора. Гэта свята патрэбнае, важнае, раней дык увогуле было мнагалюдным. Столькі ж людзей забілі... А тут сёння адзінае, што мне не падабаецца, што крычаць «Слава Украіне!» Якая ж слава Украіне, калі там столькі народу загінула? — кажа жанчына на вуліцы Каліноўскага. — Вось гэта мне тут не вельмі падабаецца. Увогуле, то малайцы, што Дзяды адзначаюць. Але прычым тут Украіна? Нам трэба сваім клопатам жыць, беларускім. А ў нас тут усё нармальна. Дзякуй прэзідэнту. Я ўвогуле за яго рукамі і нагамі, як кажуць...»

«Хочаце тут Украіну зрабіць? Нуну», — прабурчэлі дзве пенсіянеркі каля метро «Усход».



«Сёння празнік, празнік — памінанія, — кажа нам чалавек на вуліцы, што назірае за шэсцем. — Я тожа яго помню, помню. Відзіце, я дажа няможка выпіў сёння», — нібы апраўдваецца ён. «Фашысты тут ідуць, з такімі флагамі!» — абураецца жанчына ў махеравай шапцы каля гастранома. — «О, чэкістка!» — абрывае яе стары, які стаяў тут жа побач і пачуў нашу з ёй размову. — «Хто мне пенсію дае? Дзяржава! А яны тут са сцягамі фашысцкімі ходзяць». — «Дурная ты! Мы самі сабе пенсію зарабілі!» — абрывае яе стары.



«Гэтае шэсце я лічу вельмі важным, бо з Дзядоў, з 1988 года, пачынаўся Беларускі Вызвольны Рух, які прывёў краіну да незалежнасці. Таму важна яго працягваць, каб полымя не згасала. Некаторыя мае сябры кажуць, што няма сэнсу хадзіць на мітынгі. А я, наадварот, лічу, што хадзіць на мітынгі важна. Вельмі важна! Без гэтага будзе горш!» — упэўнены малады прагматыст у скуранцы, з доўгімі валасамі. Побач з ім крочыць яго ная жонка з дзіцем.





«Трэба пакланіцца гэтай зямельцы, якая прыняла столькі ахвяраў. І маіх сваякоў высылалі ў савецкі час. У Хакасію высылалі, у Сібір... Я тут, бо хачу, каб тое, што Беларусь перажыла ў 1930—40-я, ніколі не паўтарылася!» — кажа жанчына ў цёмным паліто.

**Настасся Храловіч**



## Сцісла

### Спайсы зрываюць дах

За адну ноч на Хэлоўін толькі ў Мінску ў рэанімацыю трапілі 15 чалавек — усе маладыя, ад 17 да 25 гадоў. На шчасце, абышлося без смяротных выпадкаў.

### За «Байфлай» будзе пеня

Нацыянальны аператар электрасувязі «Белтэлекам» увёў пеню за нясвоечасовую аплату рахункаў за паслугі электрасувязі. Пад новыя правілы падпадаюць усе абаненты «Белтэлекама», у тым ліку абаненты інтэрнэт-правайдара byfly і інтэрактыўнага тэлебачання Zala. Паслугамі byfly на пачатак 2014 года карысталася 1,8 млн беларусаў.

### У Данецку адбылася «інаўгурацыя» Захарчанкі

Кіраўнік «ДНР», які «перамог» на нядаўніх выбарах, прыняў прысягу на Біблії ўжо праз два дні пасля выбараў. Пасля гэтага старшыня ЦВК Раман Лягін уручыў яму афіцыйнае пасведчанне кіраўніка «рэспублікі».

### Аляксандр Груноў расстраляны

Гамяльчук Аляксандр Груноў быў прызнаны вінаватым у забойстве студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай. Дзяўчына загінула ў верасні 2012 года — ёй нанеслі больш за 100 нажавых раненняў. Гэта трэці сёлата выпадак прымянення найвышэйшай меры пакарання ў Беларусі.

### «Анега» пачала выпускаць чыпсы ў шакаладзе

Пакуль выпушчана лімітаваная партыя ўнікальнай прадукцыі — 120 тысяч пачкаў.

### Рэпер Снуп Дог любіць Беларусь

Невядома як, але беларускія нацыянальныя ўзоры трапілі ў калекцыю вядомага рэпера Снуп Дога, які змясціў некалькі рэчаў з серыі Snoop Loves Belarus на сваёй старонцы ў Instagram. Сярод тавараў з беларускім арнаментам — цішоткі, заплечнікі, чахлы для тэлефонаў і планшэтаў. Цішотка, да прыкладу, абыдзецца купцу ў $28.

**Андрэй Макаёнак, ЛМ**

## Самае чытанае на nn.by за 29 кастрычніка — 4 лістапада

1. Скандал у Маскве: беларус згвалтаваў расійскую парна-зорку
2. Арт-дырэктар «Дазары»: «Я нічога не разумею па-беларуску. Нічога каментаваць не буду»
3. Разам з Лукашэнкам у ААЭ былі Захараў, Чыж, Канаплёў, Шакуцін, а таксама невядомыя дзяўчаты ВІДЭА
4. «Беларускія казакі» на службе расійскай выведкі
5. Дзяды. У Мінску ў нядзелю прайшло шэсце ў Курапаты
6. Супрацоўнікі «Альфа-банка» адзеліся ў вышыванкі ФОТА
7. БТ зняла з эфіру скандальнага прапагандыста Яўгена Новікава
8. Гісторыя поспеху (ці падзення) Давыдзькі: як артыст Купалаўскага стаў кіраўніком БТ
9. Парчэнкаў пра стральбу з кулямёта ў Данецку: Патроны былі халастымі
10. Аляксандр Мілінкевіч: Я хацеў бы, каб мы былі такімі ж магутнымі, як украінцы

# Аляксандр Мілінкевіч: У апазіцыі ёсць сілы на адну добрую кампанію

У рэдакцыі «Нашай Нівы» **адбыўся відэаанлайн** з лідарам Руху «За Свабоду» Аляксандрам Мілінкевічам. Палітык адказваў на пытанні журналістаў, а таксама чытачоў сайта nn.by.

**«Наша Ніва»: Актыўна ідзе абмеркаванне, ці будзеце Вы ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах?**

**Аляксандр Мілінкевіч:** Гатовы ўдзельнічаць, каб аб'яднаць. У апазіцыі сёння ёсць сілы на адну добрую кампанію. Калі мы пойдзем рознымі калонамі, то будзем слабейшымі. Мы цяпер слабейшыя, чым былі ў 2006 і 2010, бо былі рэпрэсіі, ёсць расчараванне. Калі аб'ядналіся, значыць, адказныя і сумленныя. Буду патрэбны — я гатовы. Важна таксама, што будзе казаць адзіны кандыдат, а раптам ён скажа: давайце аб'яднаемся з Расіяй. Гэты чалавек мусіць быць прабеларускіх, праеўрапейскіх поглядаў.

**«НН»: Дзеля чаго праводзіць Кангрэс дэмакратычных сілаў? Няўжо Мілінкевіч, Лябедзька і Някляеў не могуць дамовіцца паміж сабой, хто будзе прадстаўляць апазіцыю?**

**АМ:** Такі варыянт таксама магчымы, ён абмяркоўваецца. Але Кагрэс надае легітымнасці. Каб паказаць людзям, што не проста кулуарна дамовіліся і выбралі найбольш падыходзячага па сваіх крытэрах. Кангрэс — важная працэдура.

**«НН»: Лукашэнка перахапіў тэму незалежнасці краіны, якую раней падымала апазіцыя.**

**АМ:** Лукашэнка дэманструе нейкія крокі і гаворыць словы пра ўмацаванне незалежнасці. Але сёння залежнасць ад Расіі катастрафічная, у эканоміцы — амаль абсалютная. Мы выступаем за шлях у Еўропу, і я б не баяўся гэтага гаварыць, але і за добрыя адносіны з Расіяй. Мы за незалежнасць без вайсковых базаў. Не можа быць такога: мы зробім для Расіі ўсё што заўгодна за новую порцыю нафты і газу. Але гэтыя рухі не павінны быць раптоўнымі, нельга правакаваць варожасць да Расіі.

**«НН»: Шляхоў да зменаў у краіне ёсць нямнога: гвалтоўна-рэвалюцыйны, негвалтоўна-рэвалюцыйны, эвалюцыйны. Вы за які?**

**АМ:** Неаднаразова казаў, што я за эвалюцыйны шлях. Калі сёння ўся ўлада ў руках рэжыму, у нас няма нават дэпутатаў мясцовых саветаў, то яны павінны рабіць самі гэта. Калі ж улады не будуць гэтага рабіць, то могуць здарыцца і рэвалюцыйныя змены, але вінаватыя ў гэтым не дэмакраты, а самі ўлады, якія не пайшлі на неабходныя рэформы.

**«НН»: Шмат ідзе размоваў, ці патрэбная Плошча. Ці не будзе гэта небяспечным прэцэдэнтам?**

**АМ:** Усе варыянты трэба прадугледжваць. Калі Плошча будзе, то неабходна ведаць, што ты здольны засцерагчы ад правакацый. Калі не здольны, то лепш і не клікаць. Бо правакацыі былі і заўсёды будуць.

**«НН»: Як Вы ставіцеся да вылучэння Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты?**

**АМ:** Гэта добры маральны сыход з выбараў. Справа ў тым, што гэта будзе рэальны няўдзел. Мікола — вельмі заслужаны чалавек, бездакорны змагар, але ці зможам мы ягоным вылучэннем паспрыяць зменам поглядаў у грамадстве? Гэта будзе выкарыстана прапагандай, каб паказаць, што апазіцыя не мае лідараў, а вылучае чалавека, які знаходзіцца ў турме. Выбары — гэта праца з людзьмі, уплыў на грамадства, а не толькі маральны чын.

**«НН»: Пасля выбараў-2001 кандыдату ад апазіцыі Сямёну Домашу прапанавалі ўзначаліць гарбарны завод у Гродне. Вам ніколі такіх прапановаў не паступала?**

**АМ:** Не прапаноўвалі мне завод, не прапаноўвалі ўзначаліць універсітэт. І я б не хацеў вярнуцца ў дзяржаўныя структуры сёння. Паглядзіце на нарады Лукашэнкі, калі ніхто не падымае вочы, нешта піша, баіцца спрачацца. Я не бачу сэнсу ісці ў сённяшнюю ўладу нават дзеля добрай справы, як міжнародныя адносіны ці культура. Я б пагадзіўся, калі быў абраны дэмакратычным шляхам, парламентам.

**«НН»: Ці паспрабуе Масква скінуць Лукашэнку на найбліжэйшых выбарах?**

**АМ:** Я не хачу ўпадаць у шпіёнаманію.Масква ніколі не збіралася здымаць Лукашэнку. Але грошы давала. Мэты ў яе былі адны — падзяліць дэмакратаў, а таксама крыху папалохаць Лукашэнку. Ды і ў Масквы няма тут асаблівых інструментаў, каб выйграць сумленныя выбары, хіба што нейкім іншым шляхам.

**«НН»: Якая Ваша пазіцыя па Украіне?**

**АМ:** Гэта ніякая не грамадзянскай вайна. Гэта расійска-ўкраінская вайна. Я згодзен з Парашэнкам, які нядаўна сказаў, што для Украіны гэтая вайна «айчынная». Расія так дзейнічае, бо Украіна захацела пайсці ў Еўропу. А Расія зацікаўленая ў стварэнні новай імперыі, а якая імперыя без Украіны? Я маю надзею, што Украіна вытрымае. Я зайздрошчу ўкраінцам за іхні дух. І хацеў бы, каб мы былі такімі ж магутнымі, як украінцы.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




**Аляксандр Мілінкевіч**

Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Гродне. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Быў намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкама (1990 — 1996). Адзіны кандыдат ад апазіцыі на выбарах 2006 года. Лідар Руху «За Свабоду»

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Старшынёй ТБМ на шосты тэрмін абраны Алег Трусаў



На з'ездзе Таварыства беларускай мовы за Трусава **прагаласавалі ўсе дэлегаты** пры адным, які ўстрымаўся.

Трусаў узначаліў ТБМ у канцы 1990-х, калі арганізацыя была ў крызісе, і надаў яе дзейнасці дынамізму. Але перад з'ездам гучалі галасы, што Таварыству патрэбная свежая кроў. Тым не менш, ахвотных узначаліць 6-тысячную арганізацыю не знайшлося, таму справу мусіць працягваць Трусаў.

Пад кіраўніцтвам Трусава ТБМ спачатку быў актыўным удзельнікам дэмакратычнай апазіцыі. Сябры ТБМ складалі касцяк корпуса назіральнікаў на выбарах.

Калі ж пасля 2004 года ў краіне кансалідавася аўтарытарызм, Трусаў вывеў ТБМ з палітыкі, каб захаваць арганізацыю.

У той жа час моваабаронча арганізацыя актыўна лабіруе пытанні мовы і культуры ў органах улады цэнтральнага і мясцовага ўзроўню. ТБМ мае шэраг вельмі актыўных суполак у рэгіёнах — ад Віцебска да Баранавіч.

**Мікола Бугай**

## У беларускай праваабаронцы, грамадзянкі Расіі Танкачовай анулявалі від на жыхарства

Кіраўнік Цэнтра прававой трансфармацыі Lawtrend Алена Танкачова атрымала апавяшчэнне аб ануляванні віда на жыхарства і аб разглядзе пытання пра высылку з Рэспублікі Беларусь 30 кастрычніка. Танкачова мае намер абскардзіць рашэнне, але галоўным для яе з'яўляецца цяпер пытанне магчымай высылкі.

Танкачова жыве ў Беларусі ад 1985 года. Праваабаронцы звязваюць ануляванне віда на жыхарства з яе дзейнасцю. Яна рыхтавала альтэрнатыўны даклад аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі для ААН.



**СГ**

Фотафакт




### Разам з Лукашэнкам у ААЭ адпачывалі Чыж, Шакуцін, Цяцерын, Захараў

На працягу 10 дзён Аляксандр Лукашэнка знаходзіўся ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. Афіцыйныя СМІ так нічога і не паведамілі пра адпачынак кіраўніка дзяржавы.

Хаця, напрыклад, бізнэсмэн Юрый Чыж, які суправаджаў Лукашэнку ў ААЭ, адкрыта сказаў журналістам, што знаходзіцца ў адпачынку, а не прыкрываўся «рабочай паездкай».

29 кастрычніка Лукашэнка ў Абу-Дабі наведваў Вялікую мячэць шэйха Заіда. На кадрах БелТА бачны толькі кіраўнік Беларусі, а таксама ягоныя сыны — Віктар і Мікалай. Тым не менш, з хронікі арабскіх СМІ вынікае, што разам з імі храм наведвалі бізнэсмены Юрый Чыж, Аляксандр Шакуцін, капітан зборнай Беларусі па тэнісе Сяргей Цяцерын, хакейны трэнер Міхаіл Захараў, кіраўнік федэрацыі гандбола Уладзімір Канаплёў.

Прысутнасць апошняга чалавека ў гэтым спісе асабліва паказальная, бо зусім нядаўна Канаплёў быў асуджаны па крымінальным артыкуле за неданясенне на намесніка генпракурора Аляксандра Архіпава. Выглядае, што ў дачыненні да Канаплёва няласку зноў замянілі на прыхільнасць.

Былі таксама ў мячэці невядомыя дзяўчаты ў чорным адзенні і капюшонах. Сярод іх угадвалася гімнастка Ксенія Санковіч, якая была заўважаная ў атачэнні Лукашэнкі і Чыжа падчас Алімпіяды ў Сочы.

**ЗП**

# Топ-10 самых прыгожых і непрыгожых

Расказвае архітэктарка **Аляксандра Баярына**.

Кожны чацвёрты катэдж з прыкладна 200 элітнага пасёлка Драздьі населены міністрамі і іншымі чыноўнікамі. Зямля коштам паўмільёна даляраў за пяць-дзесяць сотак дасталася новым гаспадарам фактычна ў падарунак ад дзяржавы.

«Наша Ніва» з дапамогай архітэктара Аляксандры Баярынай вырашыла ацаніць катэджы наменклатурнай эліты. Што праўда, гарманічных збудаванняў, якія б радавалі прафесійнае вока, набралася няшмат. Таму ў нашым рэйтынгу тры прыгожыя дамы і сем непрыгожых.

«Гэта аднародная забудова. Дамы ўжо на момант будаўніцтва былі настолькі простыя, што гаспадарам прыйшлося прыкласці пэўныя намаганні і фантазію, каб іх аздобіць, але толькі ў адзінак гэта атрымалася», — дзеліцца Аляксандра Баярына сваім першым уражаннем.

**Падрыхтаваў Ягор Марціновіч, фоты Настассі Храловіч**



**Аляксандр Косінец.** Старшыня Віцебскага аблвыканкама (з 2008), віцэ-прэм'ер (2003—2008).

Прывабны дом. Выкарыстаныя тыя ж элементы аздаблення, што ў іншых замоўцаў, але дом выглядае гарманічным.

Цікавы элемент, які прыйшоў да нас з расійскіх каталогаў, — верхняе акно на гарышчы ў выглядзе паўкола, якое ўрэзана ў іншае паўкола. Гэта перасячэнне дзвюх немагчымых фігур.

Адно пытанне: нашто тут «пушкінскія» ліхтарыкі? Яны пасуюць хіба што маленькаму польскаму доміку.



«Асноўная частка дамоў выглядае сціпла. А ўпрыгожванні негарманічныя, — кажа Аляксандра Баярына. — Гэта старая эстэтыка. Наўрад ці гаспадары захочуць дажываць свой век у такіх дамах. Яшчэ 5—10 гадоў — і катэджы будуць выглядаць зусім непрыгожа. У 2000-ыя яны выглядалі больш-менш, але цяпер зусім несучасна. І ўсе спробы зрабіць з іх прыгожы класічны катэдж не спрацоўваюць.

У Беларусі няма звычкі зносіць дом і будаваць нанова. Гаспадары будуць чапляцца за дрэнна пабудаваныя сцены да канца... А моладзь ужо з задавальненнем уцякае адсюль і жыве ў сучасных інтэр'ерах, прымяраецца і да сучасных катэджаў».



**Сяргей Мартынаў.** Міністр замежных спраў (2003—2012).

Усе спробы зрабіць дом прыгажэйшым спрацавалі. Адзін з камінoў аздоблены ў матэрыял фасада, іншыя — пафарбаваныя. Абодва варыянты прывабныя, але пераважны ўсё ж такі першы варыянт.

Прыгожая агароджа ў выглядзе «зялёнай сцяны».

Галоўным выглядае гараж, для асіметрычнага дома гэта дапушчальна.



**Генадзь Курачкін.** Міністр архітэктуры і будаўніцтва (1999—2006).

Праект вылучаецца сярод іншых. Можа, ён не самы прыгожы, але вельмі гарманічны. І месца, дзе чалавек адпачывае, і дзе працуе — усё ўзаемазвязана без відавочных кантрастаў.

Дрэва на фасадзе — вельмі незвычайны прыём для Беларусі. Чалавек, які яго выкарыстоўвае, мусіць быць смелым. Гэта гаспадар новага складу, ён не будуе на 50 гадоў наперад, а думае, як зрабіць жыллё эстэтычным на бліжэйшыя 20 год. Бо астатнія хочуць будаўніцтва «на стагоддзі», але ўжо праз пяць гадоў бачны маральны знос дома. Застаецца толькі разбурыць яго і пабудаваць нанова.

Добры ганак, прыгожа пасаджаныя вокны, дый коміны з больш сучасных матэрыялаў, чым звычайны металапрофіль у суседзяў.

### А хто яшчэ?

У Драздах у свой час атрымалі жыллё больш за 50 чыноўнікаў, некаторыя з іх з цягам часу перапісалі катэджы на жонак ці дзяцей:

**Абельская Ірына** — кіраўніца Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра
**Бамбіза Іван** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Бардзюжа Мікалай** — генеральны сакратар АДКБ, расіянін
**Батура Барыс** — у свой час старшыня Мінаблвыканкама
**Васілевіч Рыгор** — у свой час генеральны пракурор
**Галаванаў Віктар** — у свой час міністр юстыцыі
**Дражын Уладзімір** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Ермакова Надзея** — старшыня Нацбанка
**Ерын Леанід** — у свой час старшыня КДБ, расіянін
**Захараў Міхаіл** — хакейны трэнер
**Іванчанка Мікалай** — у свой час намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Кабякоў Андрэй** — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Камянкоў Віктар** — у свой час старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда
**Канаплёў Уладзімір** — у свой час старшыня палаты прадстаўнікоў
**Кісель Рыгор** — кіраўнік АНТ
**Корбут Мікалай Мікалаевіч** — у свой час кіраўнік справаў прэзідэнта
**Латыпаў Урал** — у свой час кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, расіянін
**Макей Уладзімір** — міністр замежных спраў
**Мальцаў Леанід** — старшыня памежнага камітэта
**Навіцкі Генадзь** — у свой час прэм'ер-міністр
**Навумаў Уладзімір** — у свой час міністр унутраных спраў, расіянін
**Нявыглас Генадзь** — у свой час кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Папоў Вадзім** — у свой час старшыня палаты прадстаўнікоў
**Паўлаў Міхаіл** (памёр) — у свой час старшыня Мінгарвыканкама
**Паўлоўскі Аляксандр** — у свой час старшыня памежнага камітэта
**Поўны Фёдар** — святар
**Пракаповіч Пятро** — віцэ-прэм'ер
**Праляскоўскі Алег** — у свой час міністр інфармацыі
**Пяткевіч Наталля** — у свой час памочніца прэзідэнта
**Радзькоў Аляксандр** – першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Рыбакоў Валянцін** — намеснік міністра замежных спраў
**Селязнёў Аляксандр** — у свой час міністр архітэктуры і будаўніцтва
**Сідорскі Сяргей** — у свой час прэм'ер-міністр
**Сукала Валянцін** — старшыня Вярхоўнага суда
**Сухарэнка Сцяпан** — у свой час старшыня КДБ
**Сямашка Уладзімір** — першы віцэ-прэм'ер
**Тапузідзіс Павел** — бізнэсмен
**Таўпянец Эдуард** — у свой час першы намеснік міністра энергетыкі
**Тозік Анатоль** — віцэ-прэм'ер
**Цалко Уладзімір** — міністр прыродных рэсурсаў
**Чыж Юрый** — бізнэсмен
**Шаўцоў Віктар** — бізнэсмен
**Шэйман Віктар** — кіраўнік справаў прэзідэнта
**Ярмошына Лідзія** — старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі.

Апартаменты займелі:
**Андрэйчанка Уладзімір** — спікер палаты прадстаўнікоў
**Снапкоў Мікалай** — міністр эканомікі

# катэджаў чыноўнікаў у Драздах



**Міхаіл Мясніковіч.** Прэм’ер-міністр (з 2010).

Плюсаў увогуле няма. У катэджа відавочная кітчавасць. Які элемент ні вазьмі, ён глядзіцца недарэчна.

Пасадка вокнаў, афарбоўка, элементы — усё няўдала.

На вокнах дома ўсталяваная дарагая аўтарская коўка, яе, напэўна, рабіў мастак, але без яе было б значна лепей. Зрэшты, з коўкай мала ў каго атрымліваецца добра.





**Уладзімір Груздзеў.** Губернатар Тульскай вобласці Расіі (з 2011), бізнэсмен, заснавальнік гандлёвай сеткі «Сёмы кантынент». Дом зарэгістраваны на яго маці.

Зрабіць ініцыялы на фасадзе можна, але вялікі надпіс — жахліва. Усё дарагое і прыгожае падпісваецца сціпла. Гэта расійскі стыль, у якім усе элементы перабольшваюцца. Яшчэ і цяга да калон... Бачна, што замоўца — самадур: «Агароджа ў мяне будзе з мазаікі. Усе яе ў басейн кладуць, а я — на агароджу».






**Аляксандр Папкоў.** Дэпутат палаты прадстаўнікоў, былы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Металадахоўка — танны неэстэтычны матэрыял. Гэта праява благога густу. Абшыўка комінаў выглядае пачварнай.



**Валерый Мазоўка.** Кіраўнік будтрэста, які забудоўваў Драздах.

Дробныя цацачныя элементы на фасадзе, зноў металапрофіль на комінах, выпадковая для дадзенага аб’ёму аглядная пляцоўка пад дахам, якая прасвечваецца наскрозь. З адваротнага боку катэджа прыбудаваная псеўдазамкавая вежа са змяшчэннем па восі дома.



**Сяргей Ткачоў.** Генеральны дырэктар «Амкадора», памочнік прэзідэнта (2001—2012).

Прысутнічае манія велічы. Замоўца знайшоў толькі адзін спосаб упрыгожвання — гіпертрафіраваныя аб’ёмы. Тоўстыя калоны, агароджа — усё непрапарцыйна. Дзверы для такога дома мусілі быць высокімі, шырокімі і знаходзіцца па цэнтры. Заезд у гараж і акно зверху размешчаныя не па адной восі, а неяк выпадкова. І ад верхняга акна да даху застаецца літаральна 15—20 см, а арачнае акно патрабуе прасторы, над ім мусіць быць дастаткова месца для накладнога элемента. Так будавалі хіба што ў пачатку 1990-х: што выйшла, тое выйшла.



**Аляксандр Шпілеўскі.** Старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта (з 2001).

Страшэнны плоскі дом, у ім фактычна няма даху. Завяршэнне даху над ганкам недарэчнае... Яшчэ і парушаная вось паміж вокнамі на другім і трэцім паверхах над уваходам. А каля вокнаў тырчаць смешныя простакутнікі.



**Анатоль Калінін.** Віцэ-прэм’ер (з 2010).

Поўная цыганшчына і безгустоўшчына. Гэтыя плоскія налепкі — нават не архітэктура!

# Клуб «Дазары» прапаноўваў наведнікам «Пуціна на ўсю ноч»

**Вечарынка «Рускім быць модна» ў мінскім начным клубе выклікала вялікае абурэнне.**






1 лістапада ў мінскім клубе «Дазары» прайшла тэматычная вечарына «Рускім быць модна». На 2 і 3 лістапада было сплянаванае мерапрыемства пад назвай Russian night («Руская ноч»). На афішы намаляваны Пуцін, аўтамат Калашнікава, матрошкі і Крэмль.

Сайт «Дазары» гэтак падаў party: «Эх, душа руская! На пpасторах Dozari сёння зможа разгуляцца патрыёт рускага каларыту: матрошкі будуць нясціпла пасміхацца, а запацелая чарка ды пад балалайку прыхарошыць асеннюю ноч. Калі ўнутры вас жыве агеньчык неўтаймоўнай рускай весялосці, сапраўднага гарэзнага вісуса і гулякі — запрагайце санкі, народ, ды імчыцеся ў Dozari, дзе рускім быць модна!»

Мы патэлефанавалі ў клуб «Дазары», дзе нам паведамілі, што за вечарыну адказваў арт-дырэктар установы Аляксандр «Саўнд» Кроітар. «НН» набрала яму, каб даведацца, у чым быў сэнс гэтага мерапрыемства.

— Аляксандр, добры дзень. З газеты «Наша Ніва» вас турбуюць. Ці не маглі б вы пракаментаваць вечарыны «Рускім быць модна» і «Руская ноч» у клубе «Дазары»? Яны выклікаюць неадназначную рэакцыю ў грамадстве.

— Я ни слово не понял из того, что вы мне сказали.

— Вы не разумееце дзяржаўную мову Рэспублікі Беларусь?

— Я русский, из Сибири.

— Але ж Вы знаходзіцеся на тэрыторыі Беларусі.

— Какая разница, где я нахожусь, — адказаў Аляксандр.

Пасля прагучала гэта ж самае пытанне, толькі па-руску. Арт-дырэктар папытаўся, у чым скандальнасць вечарыны.

— Ведаеце, не на кожнай афішы ёсць Пуцін і аўтамат Калашнікава.

— Я ўстрымаюся ад каментароў, — адказаў ён.

— А вечарыну «Беларусам быць модна» вы будзеце праводзіць?

На гэтым спадар Кроітар паклаў слухаўку. Спробы дазваніцца да арт-дырэктара «Дазары» яшчэ раз плёну не мелі — ён проста не адказваў.

Калі крыху заглыбіцца, што за асоба гэты Аляксандр Кроітар, то адшукаеш шмат цікавага. Напрыклад, у 2008 годзе аддзяленне «Камсамольскай праўды» ў Кемераве пісала, што арт-дырэктар аднаго з мясцовых начных клубаў пазычаў грошы ў бізнэсменаў, але не аддаваў іх назад.

Ужо ў Беларусі сп.Кроітар таксама запомніўся яркімі заявамі. «Я бяру Мінск не як асобную краіну, а як рэгіён Расіі. Паміж намі няма межаў».

У інтэрнэце з заяваў Аляксандра Кроітара пачалі жартаваць. З'явілася фотажаба з надпісам: «Я — хлопчык, я не хачу нічога разумець па-беларуску, я хачу Пуціна на ўсю ноч». Ну а самому арт-дырэктару давялося адказваць у сацсетках на паведамленні абураных карыстальнікаў.

**Зміцер Панкавец**

## БТ зняла з эфіру скандальнага прапагандыста Яўгена Новікава

Пра гэта сам тэлевядучы паведамляе ў сваім відэаблогу на расійскім неанацысцкім сайце kramola.ru.



«Ад 27 кастрычніка перадача «Правы чалавека: погляд у свет» знятая з эфіру. Скажу адразу, што галоўная прычына — гэта мая прынцыповая пазіцыя па сітуацыі ва Украіне. Прызнаць сёння бандэраўшчыну як норму жыцця для мяне асабіста — за межамі дабра і зла», — сказаў сп.Новікаў.

Ён мае намер далей весці відэаблог на «Крамоле». Па сваім пасыле і матэрыяле гэта мала чым адрозніваецца ад перадачы «Правы чалавека».

Варта нагадаць, што ў сярэдзіне кастрычніка Нацыянальная рада па пытаннях тэлебачання і радыёвяшчання Украіны заявіла пра магчымую забарону на вяшчанне на тэрыторыю Украіны тэлеканалаў «Беларусь-24» і «365 дней» (Расія). «Вынікі маніторынгу сведчаць аб наяўнасці ў перадачы «Правы чалавека» антыўкраінскай прапаганды», — паведамілі ў Нацрадзе.

Адхіленне ад эфіру пакуль не значыць звальнення. Сп.Новікаў працягвае лічыцца ў штаце тэлеканала. Яўген Новікаў стварыў мноства прапагандысцкіх ролікаў. Асабліва запомнілася ягонае выказванне, пра «амерыканскіх дзяцей, якія з галадухі ядуць пацукоў».

У пачатку 1990-х дэпутат Вярхоўнага Савета Яўген Новікаў меў шчыльныя адносіны з БНФ, сам неадназова выступаў на іх мітынгах, падтрымліваў іх прапановы. У 1992-м Новікаў стварыў праваабарончую арганізацыю «Беларуская ліга правоў чалавека». Праўда, праз нейкі час Новікаў кардынальна памяняў свае погляды. Спачатку ён спяваў дыфірамбы сённяшняй беларускай уладзе, а цяпер перафарбаваўся ў вернага «пуцінца».

**ЗП**

## Акцёр Парэчанкаў пераблытаў кіно з жыццём

Ад пачатку ўкраінскіх падзей некаторыя расійскія дзеячы культуры стала выказваюць гарачую падтрымку пуцінскай палітыцы. На мінулым тыдні адна з праяваў такой падтрымкі выклікала міжнародны скандал.



Акцёр Міхаіл Парэчанкаў пабываў на пазіцыях сепаратыстаў каля Данецкага аэрапорта. У самаабвешчаную «Данецкую Народную Рэспубліку» Парэчанкаў прыехаў, каб паказаць біяграфічны фільм «Паддубны» аб легендарным савецкім барцы Іване Паддубным. Падчас візіту Парэчанкаву дазволілі пастраляць з буйнакаліберната кулямёта «Уцёс». «Вам ужо пастраляць давалі хлопцы?» — пытаецца ў яго жаночы голас за кадрам відэаканала «Наваросія ТБ». «Я ўжо настраляўся, яшчэ з восьмага года, у Цхінвалі», — адказвае Парэчанкаў, хоць падчас грузінскай вайны ён у войску Расіі не служыў.

Затым акцёр стаў за кулямёт і выпусціў некалькі чэргаў. На гэты ўчынак адразу адрэагавала кіраўніцтва Украіны, якое абвінаваціла яго ў стральбе па пазіцыях украінскіх салдат, распачало супраць яго крымінальную справу і абвесціла Парэчанкава ў вышук. Салідарнасць з Украінай праявіла Латвія, якая ўжо 1 лістапада забараніла Парэчанкаву ўязджаць на тэрыторыю краіны.

Справа ўскладнілася яшчэ і тым, што ў момант стральбы на Парэчанкаве была каска з надпісам «прэса» — міжнародны знак адрознення для журналістаў, якія працуюць у гарачых пунктах. Гэты факт раз'юшыў як журналісцкую супольнасць Расіі, так і суседніх краін.

Калі скандал набраў абароты, Парэчанкаў паспрабаваў апраўдацца. Маўляў, што страляў халастымі і што кадры ўвогуле былі пастановачныя. А надпіса «прэса» на касцы ён увогуле не бачыў... Прадстаўнікі «ДНР» таксама выгароджвалі Парэчанкава і казалі, што ён страляў па мішэнях. Аднак усё гэта выглядае вельмі слабымі адгаворкамі. На відэа добра бачна, як блішчаць металам баявыя кулі запраўленай у кулямёт стужкі.

**Кірыла Хілько**

## Восем кампаній-рэзідэнтаў беларускага Парку высокіх тэхналогій трапілі ў сусветны Software топ-500

Часопіс «Software Magazine» выпусціў штогадовы рэйтынг Software 500. У аснову рэйтынга пакладзены прыбытак кампаній-удзельніц за 2013 фінансавы год, атрыманы ад праграмнага забеспячэння і паслуг.

Месцы ў рэйтынгу размяркоўваюцца на падставе ўліку абароту кампаній, уключаючы даходы ад продажу ліцэнзій, суправаджэння і падтрымкі праграм, навучання, паслуг і кансалтынгу.

Згодна з уплывовым у сусветнай IT-індустрыі выданнем, восем кампаній-рэзідэнтаў беларускага Парку высокіх тэхналогій — айчыннага аналагу сусветна вядомай «Крэмніевай даліны» — умацавалі свае пазіцыі ў рэйтынгу.

Кампанія EPAM Systems, рэзідэнт ПВТ, заняла 131 месца ў спісе найбуйнейшых кампаній-распрацоўнікаў праграмнага забеспячэння паводле рэйтынга Software 500. Кампанія «Прагноз» — 292 месца, IBA Group — 287, Ericpol Тэлекам — 288, Exadel — 372, Coherent — 413, SoftClub — 403, кампанія Intetics — 429.

Прагрэс беларускага IT-рынку відавочны: тая ж IBA Group паднялася ў спісе «Software 500» у параўнанні з папярэднім годам на 9 пунктаў, а Intetics трапляе ў рэйтынг на працягу апошніх 5 гадоў, падняўшыся на 11 пазіцый у параўнанні з мінулым годам.

Сёння IT з'яўляецца адным з найбольш паспяховых сектараў беларускага бізнэсу. Ён упэўнена заваёўвае міжнародныя рынкі. Па звестках Парку высокіх тэхналогій, экспарт праграмнага забеспячэння і паслуг за студзень-чэрвень 2014 склаў $246,1 млн даляраў і павялічыўся ў параўнанні з аналагічным перыядам 2013 на 30%.

**Фарыд Беррашэд**

# Пасварылася з жаніхом так, што сэрца не вытрымала

У Магілёве памерла студэнтка.

Цела 24-гадовай Яні знайшла суседка па інтэрнатаўскім пакоі. Прыехала з выхадных 27 кастрычніка, а дзяўчына нежывая.

«Праводзіцца праверка. Першапачатковая прычына смерці — сардэчная недастатковасць. Прызначаны шэраг экспертыз, каб выключыць крымінальны характар смерці — напрыклад, верагоднасць, што яе не атруцілі», — адзначыла прадстаўніца УСК па Магілёўскай вобласці Аксана Салянюк.

Яня нарадзілася ў Мазыры. Вучылася ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Куляшова. 5 курс факультэта педагогікі і псіхалогіі дзяцінства. Рыхтавалася да абароны дыплома. За гады вучобы праявіла сябе толькі са станоўчага боку. Ва ўніверсітэце вывесілі партрэт дзяўчыны са спачуваннямі: «Сумленна ставілася да вучобы, брала актыўны ўдзел у грамадскай і валанцёрскай дзейнасці факультэта».

Але што ў такія маладыя гады магло стацца з сэрцам? Сябры кажуць, што віной таму — не заўсёды ўзаемнае каханне.

«Асабіста я магу расказаць пра яе толькі станоўчае. Не таму, што так трэба, а таму, што гэта было так. Добры і спагадлівы чалавек. Ніколі не заставалася абыякавай да маіх праблем і перажывала. Ведала, што сказаць і як суцешыць... Аддана кахала свайго маладога чалавека. І мы нават не думалі, што настолькі моцна, што не вытрымала. У апошнія дні яна ўсім казала: «У мяне ўсё будзе добра...» — падзялілася сяброўка Карына.

Яня ўмела знайсці патрэбныя словы для іншых, як псіхолаг, а вось справіцца са сваімі пачуццямі не змагла. На дзявочыя плечы звалілася шмат выпрабаванняў.

**Сардэчная недастатковасць** — гэта стан, пры якім сэрца не можа забяспечваць арганізму нармальны кровазварот: сэрца становіцца няздольным працаваць як помпа.

Каб захаваць сэрца здаровым, медыкі рэкамендуюць прытрымлівацца здаровага ладу жыцця. Не допускаць з'яўлення лішняй вагі. Правільна харчавацца: чатыры разы на дзень, мінімізаваць спажыванне солі. Больш спажываць прадуктаў з утрыманнем калію і магнію, садавіну, якая служыць для прафілактыкі атэрасклерозу (яблыкі, грушы, бананы, ківі, слівы). Тлустае мяса лепш замяніць на мяса хатняй птушкі і рыбу, а жывёльны тлушч рэкамендуецца замяніць на раслінны.

Безумоўна, варта адмовіцца ад шкодных звычак (курэнне, ужыванне алкаголю). І павысіць фізічную актыўнасць.

«Яню гадавала і выхоўвала бабуля. Яна ўзяла дзяўчынку адразу з радзільні. Чаму не было бацькоў, я не ведаю і ніколі не пытаўся. І яна не была распешчанай, была абмежавана ў нейкіх рэчах, — дзеліцца прыяцель дзяўчыны Яўген. — Калі ўсе Яніны сяброўкі паступілі ва ўніверсітэты, а яна не, была засмучана. Я яе падбадзёрваў. І праз год яна паступіла таксама вучыцца».

Яўген кажа, што дзяўчына была сарамлівай. Калі ўсе хадзілі на пляж, яна саромелася сваёй фігуры. «Яня была пампушкай. Але мы здолелі пераадолець яе страх, і яна з сяброўкамі пачала хадзіць загараць. Раніцай, калі лянота прачынацца і яе сяброўкі яшчэ валяліся па ложках, я бачыў здалёк нашу смуглянку Яню, якая кіравалася ўжо на пляж. Яна ператварылася ў прыгажуню. І хутка з'явіўся і яе каханы. Праўда, каханне было не зусім добрае і ўзаемнае. Але Яня намагалася, каб у яе было не горш за сябровак. А ён карыстаўся і не цаніў».

Расталіся. Але ў дзяўчыны з'явіўся новы прыхільнік, з якім працяглы час сустракаліся. «Яны ідэальна падыходзілі адно да аднаго. І Дзяніс зрабіў ёй прапанову. А па словах бабулі я зразумеў, што яны пасварыліся. Яня плакала па начах. Дурненькая, узяла ўсё блізка да свайго сэрца, якое проста не вытрымала і спынілася. Проста не магу ўсвядоміць, што не ўбачу больш гэтай ўсмешлівай смуглянкі».

Сяргей Макарэвіч

# Дзёрзкі налёт на краму: з выбухоўкай і ў бронекамізэльцы

Рабаўнік можа адправіцца ў турму за 30 даляраў.

30 кастрычніка каля 18.30 у адну з крам Оршы зайшоў чалавек у камуфляжы і заявіў пра налёт. Прадавачкі, праўда, не паверылі: прынялі за жарт і адмовілася аддаваць выручку. А налётчык доўга не цацкаўся: дастаў пісталет і двойчы стрэліў у паветра, а затым адной з жанчын у нагу. Але з касы ён вынес толькі 350 тысяч рублёў.

Калі ў міліцыю паступіла паведамленне па разбой, адразу у раёне быў абвешчаны план «Сірэна». І нападніка затрымалі ў той жа вечар на чыгуначнай станцыі Харбрава: яшчэ пару хвілін — і ён бы з'ехаў. Але затрыманне не было лёгкім: убачыўшы міліцыянтаў, рабаўнік пачаў паліць па іх з пісталета. Пасля пяці стрэлаў яго ўдалося скруціць. Пры вобшуку знайшлі тры прадметы, падобныя да зброі (іх сапраўднасць вызначаць эксперты) і самаробную выбухоўку. На самім рабаўніку была бронекамізэлька.

«УСК па Віцебскай вобласці заведзена крымінальная справа па факце ўзброенага разбойнага нападу. Падазраваным прызнаны жыхар Мінскага раёна, 1989 года нараджэння, які нідзе не вучыцца і не працуе. Затрыманы дае паказанні. Правяраецца яго датычнасць да іншых процiпраўных дзеянняў», — адзначылі ў Следчым камітэце. Крымінальная справа заведзена яшчэ і за спробу забойства супрацоўніка ўнутраных спраў.

Крама не была абсталявана сігналізацыяй і трывожнай кнопкай. На гэтую акалічнасць не аднойчы звярталася ўвага кіраўніцтва гандлёвага аб'екта. Дзе тонка, там і рвецца.

Кастусь Матушыч

**Вышук**





**Зніклі падлеткі**

17-гадовыя Святлана Мароз і Таццяна Хаустава пайшлі з інтэрната каледжа ў Гомелі 16 кастрычніка. І не вярнуліся. Абедзве прыкладна росту 156—160 см, у Святланы валасы русыя, у Таццяны — каштанавыя. Хто ведае знаходжанне дзяўчат, звяртайцеся на (029) 232-11-11.

# Падпалілі сядзібу Мілінкевіча

Усё і проста, і складана.

Як паведамілі ў МНС па Гродзенскай вобласці, пажар зафіксаваны 28 кастрычніка ў 16.02. Мяркуецца, што гэта быў падпал.

Сын дзеяча апазіцыі мае хату ў родавай вёсцы Берыты Шчучынскага раёна. Нехта спрабаваў падпаліць гумно і склеп. «На шчасце, полымя не перакінулася на дом — паспелі патушыць», — расказаў палітык.

Сын Мілінкевіча, таксама Аляксандр, набыў хату даволі даўно, але ўсё яшчэ не скончыў рамонту. Сам ён жыве і працуе ў Гродне.

Аказалася, што Мілінкевічы пусцілі да сябе ў хату пажыць сям'ю суседкі-настаўніцы. Рэч у тым, што яе хату пэўны час назад спалілі і ёй не было дзе жыць. І вось — падпал дзвярэй незамкнёнага лёха і гумна адбыўся ў той дзень, калі ў райцэнтры ішоў суд па справе аб падпале суседчынай хаты. Ні яе самой, ні яе сваякоў у Берштах у той момант не было. Ніхто не пацярпеў.

Такім чынам, гаворка можа ісці не пра палітыку, а пра даўнія кланавыя разборкі ў глухой пушчанскай вёсцы.

СМ, Сяргей Гезгала

# Вось і вер Карлсану

23-гадовы хлопец збіраў грошы на лячэнне сястры. Але выявілася, што махляваў.

Яшчэ ў лістападзе 2013 хлопец на форуме аднаго аўтаклуба размясціў абвестку, што ў яго моцна хворая сястра: рэцыдыў раку. На лячэнне ў Германіі патрэбна вялікая сума — 70 тысяч даляраў. Нібыта большую частку сабралі родныя. А калі звяртаўся ў дабрачынныя фонды, яму там адмовілі. І многія на форуме расчуліліся. Бо ведалі чалавека пад нікам «Karllson» і ў рэальным жыцці. Агулам яму перадалі больш за 12 мільёнаў рублёў. Але знайшліся і тыя, хто засумняваўся ў праўдзівасці гісторыі. Пачалі высвятляць. І аказалася, што ў хлопца сястры нават няма. Тады і леглі першыя заявы ў міліцыю.

Яго асудзілі на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці (аўто «БМВ», мабільнік, ноўтбук). Праўда, пасля касацыі яму год скінулі: узялі пад увагу, што ён добраахвотна вярнуў грошы тым, у каго іх браў.

СМ

**Сціслa**

**У Магілёве педафіл**

Магілёвец фатаграфаваў аголеных дзяцей і выкладваў іх фота ў інтэрнэце. З 2013 заваблiваў да сябе рознымі спосабамі малалетніх дзяцей і прымушаў іх фатаграфавацца. Падчас ператрусу ў яго канфіскавалі цвёрды дыск з камп'ютара, на якім спецыялісты здолелі аднавіць выдаленыя фотаздымкі. Яны і стануць асновай у абвінавачанні.

**У Гродне доктар-прастытутка**

28-гадовая дзяўчына-медык з Гродна знаёмілася з кліентамі ў сацыяльных сетках, а за гадзіну «працы» брала 50 даляраў. Сустракалася на здымных кватэрах альбо проста ў машыне. Адным з кліентаў стаў аператыўнік, які і выкрыў прастытутак. Дзяўчыну ў выніку аштрафавалі на 900 тысяч рублёў.

**У метро кішэннікі**

Дваіх таварышаў, 32 і 35 гадоў, затрымалі ў сталічнай падземцы. Міліцыянты ўбачылі знаёмыя твары (раней асуджаных за кішэнныя крадзяжы) і ўзяліся за імі назіраць. Старэйшы скраў кашалёк у пасажыркі ў цягніку і перадаў яго прыяцелю. Так і накрылі.

**У Жлобіне распуснік**

Невядомы ноччу пранік у адзін з карпусоў аздараўленчага цэнтра недалёка ад Жлобіна і паспрабаваў здзейсніць распусныя дзеянні з сямігадовымі дзецьмі. На крык прыбеглі выхавацелькі, але затрымаць нікога не ўдалося. Складзены фотаробат, следчыя высвятляюць, як зламыснік трапіў у лагер.

КМ

# Касмічны карабель Virgin разбіўся ў ЗША падчас тэсту

Адзін **чалавек загінуў**.



Касмічны карабель Virgin Galactic SpaceShipTwo разбіўся падчас выпрабавальнага палёту на базе ў Каліфорніі. Адзін з пілотаў загінуў, другі атрымаў траўмы, як паведаміў дарожны патруль каліфарнійскай паліцыі.

Кен Браўн — фатограф, які стаў сведкам катастрофы, — паведаміў журналістам, што карабель выбухнуў пасля аддзялення ад самалёта-носьбіта (так званага самалёта-авіяматкі).

Карабель Virgin Galactic SpaceShipTwo падымаецца ў паветра самалётам-носьбітам, а затым аддзяляецца і ўключае ўласны ракетны рухавік, які выводзіць яго па парабалічнай траекторыі да вышыні ў 100 км. Самалёт-авіяматка White Knight 2 без праблем прызямліўся на бліжэйшым аэрадроме.

Карабель рыхтаваўся да першага арбітальнага палёту, які павінен быў адбыцца праз некалькі месяцаў. З яго поспехам канструктары звязвалі сваю мару па стварэнні першага касмічнага турыстычнага карабля.

Для кампаніі Virgin Galactic гэта стане буйной няўдачай. Фірма разлічвала стаць першай у новай галіне касмічнага турызму. Доўгі спіс знакамітасцяў, якія набылі загадзя квіткі на першыя палёты карабля.

Дэвід Шукман, кіраўніка аддзела навукі Бі-Бі-Сі, адзначае: «Інцыдэнт прывядзе да новых затрымак. Заваёва космасу — нялёгкая задача, а ператварэнне касмічных палётаў у руцінную справу — яшчэ больш складаная рэч».

**Бі-бі-сі**

**Фотафакт**



**Смог у Мінску**

Фатограф «Комсомольской правды в Беларусі» Віктар Гіліцкі зрабіў фантастычнае фота Мінска, патанулага ў смогу. Кадр зроблены ў сераду з самалёта з вышыні 1200 метраў.

Смог тлумачыцца рэдкай метэаралагічнай з'явай — тэмпературнай інверсіяй.

Інверсія тэмпературы перашкаджае вертыкальным рухам паветра і спрыяе ўтварэнню туману, смогу, аблокаў, міражоў. Халоднае паветра можа спускацца ўніз і назапашвацца, а над халодным пластом там будзе больш цёплае паветра, якое ўтварае воблака або лёгкі туман. Калі інверсія праяўляецца ў вялікіх маштабах, пыл і бруд (смог), што ўздымаюцца ў атмасферу, застаюцца там і назапашваюцца.

Смог на тым тыдні зафіксаваны ў шматлікіх населеных пунктах Беларусі.

# Здзелка аб продажы самай дарагой беларускай банкноты правалілася

Гісторыя з продажам **5-тысячнай купюры** з серыяй АГ мела працяг.

Як паведамлялася раней, 26 кастрычніка на беларускім інтэрнэт-аўкцыёне Ay.by за рэкордную суму ў 1580$ нібы была прададзеная банкнота 5000 рублёў узору 2000 года серыі АГ.

Пераможцам быў прызнаны калекцыянер з Расіі пад лагінам Васілий1965, са стаўкай 1580$. Пераможца ў каментарах да таргоў выказваў адназначную гатоўнасць купіць рэдкую беларускую банкноту за гэтую суму, але ў выніку самая дарагая здзелка ў беларускай баністыцы не адбылася, піша сайт belbonistica.com

Пакупнік адмовіўся ад сваёй стаўкі, вырашыўшы, што пераплаціў, і быў гатовы аддаць за банкноту толькі 1000$. Уладальнік банкноты адмовіўся прадаць яе за названую суму.

Рэдкая банкнота была перавыстаўлена на таргі на расійскай пляцоўцы Molotok.ru са стартам, эквівалентным 2000$. Знайшоўся толькі адзін ахвотны зрабіць стартавую стаўку. У выніку, банкнота была прададзеная на расійскім інтэрнэт-аўкцыёне за 90 000 расійскіх рублёў, што каля 2000$. Праўда, пайшлі размовы, што сам уладальнік лота гэта і зрабіў — каб падняць стаўкі.

**АГ**

**Дзяды**

# Добры прыклад палякаў

Палякі — надзвычай арганізаваны народ. Нездарма арганізацыя, якая прывяла да падзення камунізму ў Польшчы, называлася «Салідарнасць». Гэта слова — сінонім палякаў. І чарговае сведчанне гэтаму ўся краіна кожны год назірае на Дзяды.

З 1970-ых, штогод, на найбуйнейшых варшаўскіх могілках «Павонзкі» адбываецца акцыя «Выратуем помнікі старых Павонзак». 1 і 2 лістапада прадстаўнікі свету культуры, навукі, палітыкі цёпла апранаюцца, бяруць у рукі скарбонкі і выходзяць на могілкі. Мэта — сабраць грошы на аднаўленне помнікаў, надмагільных пліт, капліц на могільніку XVIII ст. Дарэчы, менавіта тут пахаваныя Станіслаў Манюшка, Адам Плуг, Ян Булгак, Міхал Федароўскі, Мельхіёр Ванькович — людзі, жыццё якіх было звязана з беларускай зямлёй.



Сёлета на «Павонзкі» выйшла каля 250 добраахвотнікаў. Сярод іх «вяршкі» польскай інтэлігенцыі — акцёры, музыкі, пісьменнікі, асобы з першых старонак газет і тэлеэкранаў. Гэта людзі самых розных палітычных поглядаў. Левыя, правыя, цэнтрысты. Людзі, якія падчас гарачых спрэчак на тэлеэкранах могуць бэсціць адзін аднаго апошнімі словамі. На Дзяды гэтыя падзелы знікаюць. Разам з імі грошы на рэстаўрацыю старых помнікаў гісторыі і культуры збірала і мэр польскай сталіцы Ганна Гранкевіч-Вальц. А патронам акцыі быў сам прэзідэнт Браніслаў Камароўскі, які, дарэчы, з'явіўся на «Павонзках», ахвяраваў грошы на добрую справу і падзякаваў яе арганізатарам.



Дзякуючы шчодрасці палякаў, сёлета было сабрана чвэрць мільёна злотых, а гэта амаль 90 тысяч даляраў. За два дні!

Летась сума была меншай усяго на 2,5 тысячы даляраў. І на сабраныя грошы была адрамантаваная галоўная брама могілак — брама святой Ганараты. Пачалося аднаўленне Алеі Заслужаных, на якой знаходзіцца 109 магіл. У гэтым годзе былі адрэстаўраваныя 60 з іх.

На наступны год планы арганізатараў акцыі куды больш грандыёзныя.



Аўтарам гэтай незвычайнай ініцыятывы з'яўляецца музычны крытык Ежы Вальдорф, які памёр 15 гадоў таму. Каб выратаваць унікальныя помнікі гісторыі ад знішчэння, ён прапанаваў штогод на Дзень усіх святых праводзіць на могілках збор грошай. А шчодрыя палякі не падводзяць.

Чым не ідэя для перайманя для нас, беларусаў. Сродкі на добраўпарадкаванне вельмі патрэбныя і Курапатам, і іншым месцам, дзе пахаваныя ахвяры нечалавечых сістэм — камунізму і нацызму, — што ставілі свае эксперыменты на беларускай зямлі. Інтэлігенцыі ў нас хапае. Хочацца верыць, што і шчодрыя людзі не перавяліся.

**Дзмітрый Гурневіч, Варшава**

# Новая старая вежа

Рэканструкцыя Наваградскага замка працягваецца. Адзін з этапаў — кансервацыя Касцельнай вежы — ужо амаль завершаны. Аднак новы выгляд вежы падабаецца далёка не ўсім. «НН» пабывала ў Навагрудку і паглядзела, што сталася з вежай.



### Бляха, падпоркі, новая цэгла

Хто бачыў Навагрудскі замак раней ці толькі на фотаздымках, не пазнаюць яго з боку Касцельнай вежы. На месцы сцяны, што шчацінілася рыштаваннямі, цяпер стаіць збудаванне, якое зззяе новай цэглай.

Гэта не цалкам адбудаваная вежа, а яе палова. Над вежай — тэхнічны дах з бляхі, што трохі нагадвае дахі хрушчовак.

Да вежы прымацаваная велізарная металічная канструкцыя — яна ўтрымлівала рэшткі старой сцяны, пакуль рабочыя праводзілі маніпуляцыі з ёй.

Аднак саміх рэштак старой сцяны не відаць, калі знаходзішся на самой Замкавай гары, — іх схавала новая кладка.

Аўтэнтычныя цагліны старога муру праглядаюцца толькі з усходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў. То бок толькі калі глядач спусціцца з гары і стане ля Фарнага касцёла.

Наваградцы да змен на замчышчы ставяцца пазітыўна. Апытаныя на вуліцы мясцовыя жыхары радуюцца, што замак нарэшце прывядуць у ахайны выгляд. Станіслаў, які жыве ў доме пад самай Касцельнай вежай, рады, што руіны ўмацавалі і яны не абрынуцца з гары — пад яго плотам і так ляжаць камяні, што калісьці выкаціліся з контрфорсаў. Эстэтычны бок рэканструкцыі ён не ацэньвае: «Хай турысты вырашаюць, падабаецца ім ці не».

Прадавачка з сувенірнай крамы ля замка — чалавек, які ведае меркаванні турыстаў. «Вельмі многія незадаволеныя. Кажуць: закрылі даўніну цэглай. Мне самой, па праўдзе казаць, не вельмі падабаецца. Але шмат хто ў захапленні», — кажа яна.

### «Гэта было адзінае выйсце»

Навуковы кіраўнік рэстаўрацыі замка, намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Белрэстаўрацыя» па рэстаўрацыі Сяргей Друшчыц, патлумачыў, што іншага спосабу захаваць рэшткі замка не было.

У кагосьці было ўражанне, што гэтая руіна можа быць вечная. Але гэта не так. Стан яе быў жахлівы, і мы выкарысталі метад, які сёння існуе. Рэшткі Касцельнай вежы немагчыма было закансерваваць у іх папярэднім стане. Такога метаду няма ні ў Беларусі, ні ў Еўропе. Бо калі вапнавая рошчына губляе сваю трываласць, няма сродкаў яе замацаваць.

Вонкавая цагляная муроўка вежы была страчаная дзесьці 100 гадоў назад. Вежа знаходзілася ў аварыйным стане. Таму намі зроблена больш за 100 свідравін, каб замацаваць грунт схілу, прастора-



вая металічная канструкцыя, што трымала вежу падчас работ. Мы вярнулі вежы геаметрычныя памеры, якія ёсць на фотаздымках 20—30-х гадоў. Спадзяемся, што з часам у нас будзе магчымасць гэтую вежу аднавіць».

### Цэгла гарынская, муроўка — вендская

«Яшчэ мы зрабілі маленькі дах над вежай, бо не маглі гарантаваць цэласнасць цэглы, хоць нам Гарынскі камбінат зрабіў яе па спецзамове — рэстаўрацыйную цэглу ідэнтычных з кладкай вежы памераў. Арыгінальную кладку мы захавалі, дзе гэта было магчыма. Так, эстэтам можа не падабацца адсутнасць маляўнічых руін, але гэта было адзінае выйсце. Для стварэння падабенства мы выкарысталі спецыяльную рошчыну і захавалі арыгінальны вендскі тып муроўкі, арыгінальную таўшчыню швоў.

А калі да вас будуць звяртацца чытачы, хай пазнаёмяцца з кансервацыяй замка ў Чэрску, што недалёка ад Варшавы, і Ковенскага замка, дзе выкарыстаныя тыя самыя прыёмы будаўніцтва. Мастакам, якія любяць руіны, парайце, што ў нас так многа гэтых руін і мы, на жаль, не хутка да іх дабяромся... Аднак спадзяемся, што праграма «Замкі Беларусі» будзе рэалізоўвацца і далей».

Друшчыц патлумачыў, што прасторавая металічная канструкцыя, якая трымае вежу, застанецца стаяць яшчэ год, будзе рабіцца маніторынг.

Цяпер «Белрэстаўрацыя» распрацоўвае праект кансервацыі трох вежаў: Дазорнай, Пасадскай і вежы ў Малой браме, а таксама праслаў сцен паміж вежамі. Калі гэтыя работы будуць выкананыя, калі здымуць металічныя падпоркі, розніца ў выглядзе розных элементаў замка нівеліруецца.

«Трэба памятаць, што любая рэстаўрацыя мусіць быць зваротнай. Калі рэстаўруюць карціну, абавязкова павінна быць магчымасць зняць новыя матэрыялы, каб раскрыць арыгінал. Так і ў нас: новую кладку можна будзе разабраць, калі раптам з'явіцца магчымасць замацаваць старую», — нагадаў Друшчыц.

### Радыкальныя рашэнні

Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі абараняе працу «Белрэстаўрацыі». На яго думку, «маляўнічыя руіны» Наваградскага замка нельга было захаваць у сучасным выглядзе: «Я аптыміст. Памятайце, што выгляд замка, які мы прывыклі бачыць, — гэта плён працы польскіх кансерватараў у 1920-я гады. Яны ўзвялі падпорныя сценкі, якія многімі сёння прымаюцца за аўтэнтыку. У якасці прыкладу варта прывесці Вежу Гедыміна ў Вільні, якую прымаюць за аўтэнтычную захаваную пабудову. Між тым апошнія тры паверхі былі надбудаваныя ў 1920—30-я гады.

У Навагрудскім замку праводзіцца кансервацыя, мэтай якой ёсць захаваць тое, то дайшло да нашых дзён. Пакідаць «як ёсць» выветраныя, раструшчаныя стагоддзямі цагліны немагчыма праз аб'ектыўныя прычыны: клімат непазбежна ўплывае.

Такім чынам, калі мы хочам для наступных стагоддзяў захаваць хаця б працэнтаў 30 гэтай аўтэнтыкі, даводзіцца прымаць радыкальныя рашэнні. Тут больш стаіць пытанне аб якасці работ і аб далейшай эксплуатацыі: ці будзе гэта ўсё стаяць?

Іншая прычына для хвалявання — эстэтыка, выгляд. Гэта дыскусійнае пытанне. Зразумела, усе мы хацелі б там назіраць закончаную аднолыеную вежу. Аднак мы не маем дастаткова іканаграфіі па тых эпохах. Таму павінна быць нейкае іншае рашэнне. То бок пабудаваны на сапраўдных руінах прыкладны муляж вежы, як гэта бачыцца мне.

### Прывыкнем!

«Публіка хоча, каб усё было аднаўлена адразу і гламурненька, але гэта немагчыма ні па часе, ні па фінансах, ні па прызначэнні, — кажа Харэўскі. — Мабыць, такое рашэнне ў цэнтры Навагрудка спрэчнае з пункту гледжання эстэтыкі, але ў інжынерным плане выглядае, што варыянтаў было няшмат. Спецыфіка рэльефа робіць гэты аб'ект вельмі небяспечным, ён у любую хвіліну можа абрынуцца ўніз.

Адзінае, я б прапанаваў пасля завяршэння работ гэта ўсё ашляхетніць, надаць старадаўні выгляд. Гэта можа быць азеляненне, можа быць дах усё ж такі з дахоўкі. А праз гады мы, нашыя ўнукі будуць успрымаць гэта інакш — як арыгінальную пабудову».

Археолаг, кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў таксама настроены пазітыўна: «Някепска. Бывае горш, асабліва ўлічваючы ўзровень нашай рэстаўрацыі. Але лепш гэта, чым руіны, якія разваляцца. Я б ацаніў на тры з плюсам ці чатыры па пяцібальнай шкале. Вядома, жадалася б лепш, але лепш мы не можам з розных аб'ектыўных прычынаў. Адзінае, чаго я не ведаю, — гэта марозаўстолівасць цэглы. Калі яна прастаіць зіму і не пасыплецца — значыць, усё цудоўна».

**Кірыла Хілько, фота аўтара**

# Які хлеб лепшы? Які не цвіце?

«У кулёчку на кухні ляжыць чорны заварны хлеб Жлобінскага завода. Ляжыць цягам шасці дзён — і яшчэ добры. Вельмі падобны на смак чорны заварны хлеб, але ад Тульскага хлебакамбіната ляжыць не больш за тры дні і зацвітае. Адкуль такая розніца? Ніякіх кансервантаў у складзе жлобінскага хлеба няма, але і ў складзе тульскага іх таксама няма. Дык чаму першы ляжыць доўга і не псуецца, а другі праз тры дні ўжо на сметнік?» — запытаўся наш чытач з Тулы (Расія) Аляксей Арцёмаў.

Яму адказвае адзін з найлепшых пекараў краіны, Кастусь Ларкоў з Верхнядзвінска (Віцебская вобласць): «Значыць, санітарны стан на Тульскім хлебакамбінаце значна горшы ў параўнанні са жлобінскім. Любы хлеб з печы выходзіць стэрыльным. Грыбы цвілі трапляюць на яго праз тару, рукі пакавальніка, паветра. Тэхналогія выпечкі тут ні пры чым!

Тэхналагічны ланцужок прадугледжвае астыванне хлеба, пакуль той будзе нарэзаны (2—3 гадзіны), вось у гэты момант цвіль і трапляе на хлеб, а потым у спрыяльных умовах,



а цэлафанавая ўпакоўка — гэта вельмі спрыяльныя ўмовы, грыбы цвілі актыўна растуць».

Таму, сябры, заўважайце, які хлеб доўга не цвіце, такі і купляйце.




# Што ж ты, Амерыка?



Піша **Вадзім Болбас**.

Памятаю, як мы з сябрамі ў Светлагорску захапляліся Еўрамайданам. І ніхто з нас тады і падумаць не мог, чым гэта скончыцца для Украіны. На жаль, не толькі мы апынуліся ў становішчы сляпых кацянятаў. Нават хвалёныя ЦРУ і «Масад» шалёную авантуру Пуціна праспалі. Не хочацца думаць, што не праспалі, а свядома прынеслі ў ахвяру, дазволілі растрыбушыць Украіну…

Палітыка, якую Расія праводзіць у адносінах да слабейшых, — свалачная. Расія, маючы безліч агентаў уплыву ва Украіне, дазваляла свайму васалу Януковічу раскрадаць дзяржаву.

Разбурылі слаўныя структуры, давялі армію да страты баяздольнасці. І заслалі сваіх спяцоў-правакатараў, усіх гэтых гоблінаў, гіркіных, барадаяў у Крым і Данбас.

У свой час, калі Украіна адмовілася ад ядзернай зброі, быў падпісаны Будапешцкі мемарандум, згодна з якім гарантамі бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны выступілі Расія, ЗША і Вялікабрытанія. Якім гарантам аказалася Расія, усім вядома. А куды глядзелі і што рабілі другія два гаранты? Чаму, як толькі пачалася авантура ў Крыме, імі — гарантамі — не была надзейна прыкрыта расійска-ўкраінская мяжа? Чаму пасля масавай перакідкі расійскай бранятэхнікі амерыканскія беспілотнікі не знішчаюць гэтыя танкі і БТРы, як толькі тыя перасякуць мяжу Украіны?

Чаму дэмакратычная Францыя збіраецца перадаць Расіі звышсучасны верталётаносец «Містраль»? Па-добраму, будаваць іх трэба, але перадаць не агрэсару — Расіі, а Украіне, якая вядзе няроўную барацьбу з агрэсіяй!

Разумею, гэта каштуе грошай, і не малых. Але ж калі давесці да Трэцяй сусветнай, гэта абыдзецца невымерна даражэй! А калі агрэсар пагльне Украіну — Трэцяя сусветная стане непазбежнай.

Банда паважае толькі сілу!

Так, на Расію накладзены пэўныя санкцыі. Але «Васька слушает да ест». Часам ад абвешчаных санкцый становіцца проста смешна. Санкцыі аж на 170 асобаў!? А расійскія СМІ — гэтыя «калектыўны Гебельс» — аж захліпаецца ва ўхваленні дзеянняў Пуціна. А «піпл», як кажуць, «хавае».

А новым украінскім уладам варта было б устанавіць такія цэны на ваду і электрычнасць для Крыма, якімі Украіна паранейшаму забяспечвае гэты рэгіён, каб яны цалкам забяспечылі кампенсацыю спекулятыўных цэн за расійскі газ, якія заламвае «Газпром».

Трымайцеся, украінцы! Добрыя людзі ў Беларусі і цэлым свеце добра разумеюць сутнасць падзей і падтрымліваюць вас.




**Па руках бы іх**

З аднаго з будынкаў Маладзечна абвальваецца ляпніна, якая была наспех зроблена перад Дажынкамі ў 2011 годзе. Уяўляеце, ідзе багаты беларус у ювелірную краму брыльянты купляць, а яму ляпніна на лоб — бах!

**Падпісваюся проста: Чытач**

# Бязбашанныя ў Мінску

На кірмашы, які знаходзіцца па вуліцы Янкі Купалы, можна лёгка набыць цішотку незвычайнага зместу.

Прапануюцца варыянты з гламурным Пуціным, які красуецца на фоне надпіса: «Самый вежливый из людей».

На іншай можна пабачыць фаташопны бой паміж тым жа Пуціным і Абамам у кімано на фоне «наш ответ санкциям».

Таксама на выбар ёсць чырвоныя цішоткі з велізарнымі выявамі Сталіна і герба СССР (з Гітлерам, на шчасце, пакуль няма).

Гандлярка, якая прадае гэтыя тэкстыль, Відавочна выраблены на тэрыторыі ўсходняй дзяржавы, ажыўлена пацікавілася ў мяне, што мяне зацікавіла. Пачуўшы мае незадаволеныя заўвагі, яна з гонарам правяла экскурсію. На развітанне яна мне сказала: «Усе гэтыя людзі безбашанныя, і гэта тое, што нас аб'ядноўвае».

Ужо не першы месяц у суседняй Украіне кожны дзень гінуць людзі, тысячы людзей па волі вашых «бязбашанных». І кроплі іх крыві асядаюць і на вашых руках...

**Аўген Жыхар**




**Фотафакт**




**На Дзяды Зянон Пазняк разам з юнакамі-беларусамі, што вучацца ў Варшаве, наведаў магілы беларусаў, пахаваных у польскай сталіцы.**

# Адгукніцеся, спадару Шукелойць!

Нядаўна даведалася пра выбітную асобу Антона Шукелойця з ЗША. Яму споўнілася 99 гадоў, а ён застаецца духоўным лідарам беларусаў Амерыкі.

Мой дзед Віктар Антонавіч Шукелойць таксама родам з вёскі Якелеўшчына Ашмянскага раёна. Можа быць, Антон Антонавіч Шукелойць пагодзіцца спісацца з намі праз Рэдакцыю, каб можна было распытаць пра яго род, раптам ён што-небудзь ведае і пра майго дзеда.

**З павагай, Вольга Залатар**

**Мова наша**

# Не прыгадаю

Некалі пісаў пра заняхайванне натуральных беларускіх слоў «знячэўку», «заміж», «заўсёды» і пра замену іх пазычанымі «знянацку», «замест», «заўжды». Не падабаецца мне гэтая «беларуская мода» — замяняць сваё чужым, нібыта лепшым.

У часы Вялікага Княства Літоўскага ў канцылярскую беларускую мову ўнасілі ўсё больш і больш польскіх слоў, пакуль гэтую «мову» зусім не адрынулі і не перайшлі поўнасцю на польскую. У часы БССР беларускую мову (афіцыйную) усё больш напаўнялі русізмамі, пакуль, амаль скрозь, не перайшлі на рускую. Пайшла новая «мода» — украінізмы. Гэта тым больш небяспечна, што беларуская і ўкраінская мовы даволі блізкія.

Пісаў раней пра ўкраінізм «заўжды». Цяпер пра таксама ўкраінізмы, якія на кожнай старонцы, ці не ў кожным артыкуле, разы па 4 можна сустрэць — «згадаць», «нагадаць», «прыгадаць» і нават «узгадаць». Чым яны такія «смачныя»? Што здаюцца больш беларускімі, хоць зусім такімі і не з'яўляюцца? А дзе ж нашы словы «напомніць, успомніць, прыпомніць»?! От яны якраз і з'яўляюцца беларускімі. Возьмем «Слоўнік беларускіх гаворак Паўночна-Заходняй Беларусі» (фундаментальнае выданне ў 5 тамах, у якім змешчана лексіка з Гродзеншчыны, Віленшчыны, Міншчыны, Брэстчыны, Віцебшчыны і нават Гомельшчыны). Дык вось, там увогуле не адзначаны словы «ўзгадаць» і «прыгадаць», якія гэтак часта застракацелі на старонках газет, кніг і ў мове дыктараў радыё. А слова «згадаць» мае зусім іншыя значэнні — «пагаварыць і адгадаць». Слова «нагадаць» запісана ў Іўеўскім раёне і азначае «задумваць». А слова «прыгадваць» значыць «гаварыць або лічыць»!

Прывяду цытату з нашага выдатнага мовазнаўцы К. Крапівы (артыкул «Ці будзем мы ездзіць па левым баку?»). Ён піша: «У сілу той жа недарэчнай тэндэнцыі выкасоўваюцца словы *успомніць, напомніць, напамянуць* і замяняюцца словамі *згадаць, прыгадаць, нагадаць* у той час, як першыя з даўніх часоў з'яўляюцца пашыранымі ў беларускай мове, а другія — вузкадыялектныя і нават у мясцовых гаворках рэдка сустракаюцца. У слоўнікі яны трапілі з кніг і даюцца звычайна з пэўнымі стылістычнымі паметамі, але ў некаторых рэдакцыях зразу сталі фаварытамі». Дадам яшчэ, што і сэнс жа гэтых слоў іншы! Дык чаму тады ці не кожны аўтар «варожыць» — згадвае, нагадвае, прыгадвае? Каму і што нагадаюць (наваражаць) яны? Трэба адмовіцца ад гэтай заганнай схільнасці лічыць чужое сваім, а сваё адкідаць. Трэба, каб мова наша, якую лічылі самай чыстай славянскай, і папраўдзе была чыстай і ў вусных людзей, і на старонках газет і іншых сродкаў масавай інфармацыі.

**Аляксей Бруй, Гарадзея (Нясвіжскі раён)**

# У Ждановічах пабудуюць спецбальніцу для чыноўнікаў?

3 лістапада Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве комплексу Клінічнага медыцынскага цэнтра ў раёне вёскі Ждановічы. Будаўніцтва медцэнтра пачнецца ўжо сёлета, а скончыцца ў 2017-м. Грошы на бальніцу возьмуць з рэспубліканскага бюджэту і бюджэту Мінска.

У новыя будынкі найхутчэй пераедзе Рэспубліканскі клінічны медыцынскі цэнтр, вядомы ў народзе як «лечкамісія». Цяпер гэта бальніца для высокіх чыноўнікаў, што падпарадкоўваецца Кіраўніцтву справаў прэзідэнта, знаходзіцца на вуліцы Чырвонаармейскай у Мінску. Аднак 15 мая Лукашэнка прапанаваў перадаць гэты бальнічны комплекс Мінску, а для чыноўнікаў пабудаваць «невялікі, кампактны цэнтр».

Трэба адзначыць, што аб намеры Лукашэнкі пабудаваць спецбальніцу далей ад горада і бліжэй да Драздоў было вядома і раней. Так, у верасні 2013 года на сайце дзяржзакупаў з'явіўся тэндар на будаўніцтва «пад ключ» комплексу Клінічнага медыцынскага цэнтра ў Ждановічах. Сума тэндара — каля 120 мільёнаў даляраў. Нішто сабе — невялічкі, кампактны...

Дарэчы, у Ждановічах няма сваёй бальніцы — увесь 5-тысячны пасёлак-спадарожнік Мінска абслугоўвае толькі невялікая амбулаторыя.

**Кірыла Хілько**


Цяперашні будынак Лечкамісіі пяройдзе ў падпарадкаванне горада.

## Ермакова назвала памер свайго заробку

«Заробак павінен быць зароблены», — мяркуе Надзея Ермакова. Такім чынам кіраўнік Нацбанка пракаментавала падчас прамой тэлефоннай лініі нядаўняе рашэнне ўрада прывязаць рост даходаў з прадукцыйнасцю працы.

«У нас, калі можна так сказаць, замарожаны рост заробкаў у тым плане, што абмежаваны рост тэмпаў зарплаты ростам прадукцыйнасці працы. Гэта эканамічная філасофія, эканамічны закон, пры парушэнні якога з'яўляецца дадатковая інфляцыя», — сказала Надзея Ермакова.

Па прызнанні галоўнага банкіра краіны, яе асабісты заробак у параўнанні з мінулым годам не змяніўся. Раней Надзея Ермакова расказала, што атрымлівае каля 2 тысяч даляраў у месяц.

**Tut.by**

**На роўным месцы**

## Палітолага Карбалевіча ў аэрапорце Франкфурта затрымала нямецкая паліцыя

Ён накіроўваўся ў Страсбург на Сусветны форум за дэмакратыю. Але паліцыя не пусціла яго на тэрыторыю Германіі таму, што візу яму выдала Славаччына.

Як патлумачыў эксперт па еўрапейскай тэматыцы Андрэй Елісееў, памежнікі сапраўды мелі на тое права. Бо па ўмовах карыстальнік шматразовай візы павінен найперш уехаць у краіну, пасольства якой выдала дазвол. Толькі на суседнія краіны гэта не распаўсюджваецца. Абсалютна законна можна ўязджаць з «літоўскай» візай на тэрыторыю Польшчы, а з «польскай» — Літвы.



Цэлыя суткі Карбалевіч прабыў у транзітнай зоне франкфурцкага аэрапорта. Потым у справу ўмяшаліся дыпламаты з нямецкага пасольства ў Мінску. Карбалевічу была тэрмінова выдадзеная аднаразовая віза, і ён змог далучыцца да беларускай дэлегацыі ў Страсбургу.

Валерый Карбалевіч — аўтар кнігі «Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт».

**Лявон Максюта**

**Надвор'е**

## Сіноптыкі: У Еўропе чакаецца халодная зіма

Сёлета ў Еўропе сярэдняя тэмпература паветра — самая высокая за апошнія 50 гадоў. Лістапад таксама будзе параўнальна цёплым: у многіх краінах тэмпература паветра будзе на тры градусы вышэйшай за норму.

Мінулая зіма была самай цёплай за апошнія сем гадоў. А вось будучая зіма мае быць самай халоднай з 1981 года.

Сур'ёзныя халады чакаюцца ў другой палове зімы, асабліва ў нас, у Цэнтральнай Еўропе.

**АГ**

**Футбол**

## Прымай папаўненне: «Славія» і «Граніт» — у вышэйшай лізе

1 лістапада мікашэвіцкі «Граніт» і мазырская «Славія» датэрмінова аформілі выхад у вышэйшую лігу чэмпіянату Беларусі па футболе. І калі павышэнне ў класе мікашэвіцкай каманды братоў Бахно не выклікала здзіўлення ў аматараў футбола, дык поспех каманды з берагоў Прыпяці быў даволі нечаканым.

«Граніт» перад гэтым сезонам паставіў канкрэтную задачу, пад якую склад каманды быў добра ўзмоцнены. Вопытныя выканаўцы мікашэвіцкай каманды дэманстравалі надзейную гульню, прапусціўшы за ўсе 27 матчаў усяго 14 мячоў! У два разы менш, чым «Славія», з якой яны дзеляць першы радок турнірнай табліцы. Абарона ў «Граніта» стапрацэнтна адпавядае назве каманды. Будзе цікава паглядзець, як дружына абжывецца ў вышэйшым свеце.


Футбалісты «Славіі» эмацыйна святкуюць павышэнне ў класе.

Што датычыцца «Славіі», то перад пачаткам сезона футбольныя эксперты нават не называлі мазырчукоў у ліку прэтэндэнтаў на папаўненне вышэйшага дывізіёна. Па-першае, агульнавядома, што для любой каманды не так проста пасля вылету ў ніжэйшы дывізіён у першы ж сезон дабіцца павышэння. Па-другое, было вядома аб фінансавых праблемах «Славіі» — два гады ў вышэйшай лізе пакінулі пасля сябе не толькі ўражанні і досвед, але і сур'ёзныя запазычанасці. Патрэцяе, першая трэніроўка каманды адбылася толькі 5 лютага.

Сезон пачынаўся 19 красавіка, а ў лютым каманды першай лігі ўжо актыўна праводзілі зборы. У «Славіі» на гэты момант кантракт меў толькі адзін футбаліст. Усё выглядала вельмі сумна, але як мінімум не для аднаго чалавека. Ім быў Юрый Іосіфавіч Пунтус — знакаміты трэнер, якога запрасіла ратаваць каманду мазырскае кіраўніцтва. Думаецца, тут немалаважным фактарам стала асабістае сяброўства галоўнага дырэктара «Славіі» Андрэя Васільца (у мінулым капітана мазырскай каманды) з Пунтусам — яны разам навучаліся ва ўніверсітэце і гулялі за студэнцкую каманду.

Новы галоўнакамандуючы дружыны актыўна ўзняўся за справу, абвесціў кліч па ўсёй краіне — літаральна за пару тыдняў была сабраная з нуля новая каманда. У складзе мазырчукоў аб'ядналіся вопыт і маладосць. Пад наглядам прызнаных гульцоў — Алега Страхановіча, Аляксандра Кобеца, Ігара Слесарчука і Уладзіміра Гаева — пачалі паказваць свае лепшыя якасці Аляксандр Катляроў, Дзмітрый Герман, Аляксандр Раеўскі, Дзяніс Лапцеў і іншыя маладыя хлопцы. Што характэрна — цяпер у мазырскай камандзе даволі вялікая доля мясцовых маладых футбалістаў.

Вышэйшая ліга ў наступным сезоне папоўніцца дзвюма цікавымі дружынамі. Сумна з гэтымі хлопцамі не будзе.

**Зміцер Міцкевіч**

## Амерыканскі інтэрнэт-гігант выкупіў беларускіх распрацоўшчыкаў мабільных праграм Apalon

Пакупку Apalon здзейсніла кампанія Mindspark, што з'яўляецца дзейным бізнэсам IAC. Штат Apalon складаецца прыкладна са ста чалавек.

Кампанія з'яўляецца рэзідэнтам Парка высокіх тэхналогій у Мінску. Паводле ацэнак экспертаў, Apalon магла каштаваць амерыканцам 80—100 млн даляраў. Кіраваць Apalon пасля куплі працягнуць яе заснавальнікі.

Apalon была заснаваная ў 2007 годзе як падраздзяленне распрацоўшчыка вэб-праграм. З цягам часу кампанія пераключылася на распрацоўку праграм для iOS і Android. Некаторыя праграмы кампаніі набылі надзвычайную папулярнасць. Сярод іх набор для ўпрыгожвання працоўнага стала iOS Pimp My Screen, прагноз надвор'я Weather Live, будзільнік My Alarm Clock, нататнік Notepad+. Сумарна ў праграм Apalon налічваецца больш за 200 мільёнаў усталёвак і каля 20 мільёнаў актыўных карыстальнікаў штомесяц. Кампанія не раз уваходзіла ў сусветны топ-10 па колькасці загрузак праграм для iOS.

**Алесь Жарскі**

# Кананізацыя Францішка Скарыны?

У Беларусі створаны міжнародны грамадскі аргкамітэт па кананізацыі Францішка Скарыны. Яго ўзначаліў кандыдат гістарычных навук, былы міністр замежных справаў Беларусі Пятро Краўчанка. Сакратарам аргкамітэта стаў вядомы літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс.

Як паведаміў Краўчанка, аргкамітэт рыхтуе аргументацыю на карысць узвядзення Скарыны ў ранг святых, якую затым перадасць прадстаўнікам грэка-каталіцкай царквы. «Свецкія асобы ў гэтым пытанні супрацоўнічаюць з прадстаўнікамі той канфесіі, якая больш за ўсё ў гэтым зацікаўлена, такімі сёння з'яўляюцца грэка-каталікі. Затым



мы будзем хадайнічаць перад кангрэгацыяй Ватыкана, якая займаецца пытаннямі кананізацыі», — распавёў ён.

Па словах Краўчанкі, 20 гадоў таму ён прапаноўваў праваслаўнай царкве дапамагчы ў пытанні кананізацыі беларускага першадрукара. «Я асабіста некалькі разоў размаўляў на гэты конт з уладыкам Філарэтам, прасіў яго хоць бы папярэдне разгледзець гэтае пытанне. Аднак справе не зварухнулася, бо праваслаўная царква, на жаль, разглядае Скарыну як ерэтыка», — адзначыў ён.

Рэакцыя на такую навіну супярэчлівая. Некаторыя падтрымліваюць, некаторыя крытыкуюць.

**БелаПАН; СГ**

## Юрась Пацюпа выдаў кнігу твораў Багдановіча з уласнымі каментарамі

«Юрась Пацюпа ўзорна ўклаў і пракаментаваў аднатомнік Максіма Багдановіча (навуковы рэдактар — доктар Арсень Ліс). Прыемна ўзяць у рукі. Адметнасць выдання — расейскамоўныя вершы даюцца па-беларуску, у адважным перакладзе ўкладальніка. Прызнаюся — я не знайшоў да чаго прычапіцца. Артыкулы і лісты таксама акуратна збеларушаныя. Адсюль цэласнае ўспрыманне Багдановіча. Вось чаго бракуе выдаванаму цяпер 25-томніку Ул.Караткевіча, у некаторых тамах там добрая трацiна твораў па-расейску», — кажа Міхась Скобла.



**Юрась Пацюпа (злева) суправадзіў выданне дасканалымі каментарамі, а Арсень Ліс (справа) выступіў навуковым рэдактарам.**



## У Мінскім балеце паставілі «Лаўрэнсію»

«Лаўрэнсія» створаная па матывах п'есы «Фуэнтэ Авехуна» («Авечая крыніца») славутага іспанскага драматурга Лопэ дэ Вега. У яе аснове — рэальны гістарычны выпадак: паўстанне сялян супраць свайго феадала. Балет быў напісаны ў 1939-м кампазітарам Аляксандрам Крэйнам. У Іспаніі ішла грамадзянская вайна, рэспубліканцам дапамагаў СССР, франкістаў падтрымлівалі буйныя землеўласнікі. Таму надзіўна, што пастаноўкі «Лаўрэнсіі» прайшлі ва ўсіх буйных оперных тэатрах Савецкага Саюза. Праўда, у мінскім (1955) ён быў прэм'ерны. Балет паказалі ўсяго 12 разоў.

Новую пастаноўку ажыццявіла знакамітая грузінская балерына Ніна Ананіяшвілі. Вынік яе працы дазваляе знайсці аргументы як для аптыміста, так і для песіміста, як выказаўся крытык Дзяніс Марціновіч.

## Новы «Дзеяслоў»

Трымае марку самы грунтоўны з літаратурных часопісаў Беларусі. У новым нумары ёсць як вядомыя імёны, так і запамінальныя творы.

Вось **Лідзія Арабей** з філасофскімі і ў той жа час ад сэрца мініяцюрамі.

Вось гумарное апавяданне **Сяргея Дубаўца** «Вайна і мір. Справаздача».

А вось гарэзіі **Галіны Дубянецкай**.

Аматары ўзнавіць у думках колішні лад жыцця не без асалоды прачытаюць запісы розных гадоў **Ніла Гілевіча** і студэнцкі дзённік **Рыгора Барадуліна**. Два непрымірымыя ў жыцці народныя паэты суседнічаюць у адным часопісе, які аб'ядноўвае на сёння найлепшыя літаратурныя сілы.

У нумары публікуецца таксама заканчэнне рамана **Людмілы Рублеўскай** «Дагератып». А **Алена Казлова** пераклала **Артура Конан Дойла**.




## Топ-10 самых купляных кніг у кнігарні «логвінаЎ» за кастрычнік



**1. Віктар Марціновіч. Мова.** Раман.
Нягледзячы на force majeure на нядаўняй прэзентацыі, апошні раман Марціновіча — ужо другі месяц галоўны хіт продажаў.

**2. Ігар Бабкоў. Хвілінка.** Раман
Лаўрэат прэмій Гедройца і Вышаградскай групы, метафізічны раман пра Мінск 80-х.

**3. Яўген Ліпковіч. Лето из переулка.** Апавяданні.
Дэбютная кніга вядомага блогера пра дзяцінства ў Мінску 60-х — цёплая ды жартаўлівая.

**4. Тувэ Янсан. Небяспечнае лета.** Дзіцячая літаратура.
У серыі беларускіх перакладаў шведскай пісьменніцы і мастачкі — новыя прыгоды мумітроляў у Яловай затоцы.

**5. Григорий Трестман. Иов. Паэзія.**
Прадстаўнік Мінскай школы напісаў паэму на біблейныя матывы.

**6. Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве, або Шукальнікі вечнасці.**
Магічныя апавяданні.

**7. Аляксандр Краўцэвіч. Краіна Пагранічча.**
У новай кнізе гарадзенскага гісторыка сабраныя навукова-папулярныя, эсэістычныя і публіцыстычныя тэксты, прысвечаныя даследаванню Беларусі.

**8. Анатоль Трафімчык. 1939 год і Беларусь: забытая вайна.** Гісторыя.
Кніга гісторыка А. Трафімчыка — беларусацэнтрычны погляд на пачатак Другой сусветнай вайны.

**9. Севярын Квяткоўскі. Як стаць беларусам.**
Новая кніга Квяткоўскага — гэта зборнік гісторый аб розных шляхах да беларушчыны. Шляхі бываюць розныя: аўтар сабраў пад адной вокладкай самых разнастайных беларусаў — вядомых пісьменнікаў, земляробаў, лекараў і так далей.

**10. Адам Глобус. Апавяданні апошніх гадоў.**
У новай кнізе пісьменніка — 9 гісторый, як папярэджвае вокладка, розных гадоў пра Мінск, Барселону, розныя страхі і гідкасці, маладосць і дзівосы.

**Спіс уклала таваразнаўца кнігарні «логвінаЎ» Паўліна Вітушчанка**

## Сцісла

### Жыццё ў праўдзе



Кніга найлепшых эсэ Вацлава Гаўла выйшла па-беларуску. Яна змяшчае сем сусветна вядомых праграмных эсэ Вацлава Гаўла перыяду яго дысідэнцтва ў ЧССР (у тым ліку «Сіла бяссільных», «Гісторыя і таталітарызм» або «Слова пра слова»), і столькі ж прамоў аўтара часоў яго прэзідэнцтва. Кніга, апроч уласна твораў Гаўла, утрымлівае таксама «Дэкларацыю Хартыі-77», да стварэння якой аўтар меў непасрэднае дачыненне, і кароткі агляд ягонага жыцця ў датах.

Гавэл надзвычай аб'ёмна мысліў і як гуманіст, і як грамадскі дзеяч.

Кніга выйшла ў выдавецтве «Логвінаў» і стала дзявятай у серыі «Чэшская калекцыя». Эсэ Гаўла пераклалі на беларускую мову Сяргей Сматрычэнка і Юлія Сматрычэнка, прадмову напісаў Лявон Баршчэўскі.

### Робі Уільямс выступіць у Мінску

Знакаміты брытанскі спявак Робі Уільямс прыедзе 15 красавіка ў «Мінск-Арэну» ў рамках сусветнага туру Let Me Entertain You. За квіткі просяць ад 590 тыс.



### Новым дырэктарам кнігарні «логвінаЎ» стаў Яўген Ціханаў



Чытачы НН ведаюць яго па дзённіках з кругасветнага падарожжа, у якое ён выправіўся, быўшы студэнтам першага курса.

### У Мінску адкрылася выстава дызайнерскіх крэслаў

Якіх толькі табурэтак і пуфікаў на ёй няма! Куча ідэй для інтэр'ера гарантаваная. Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры», Палац Рэспублікі, Кастрычніцкая пл., 1.

**ПК, АБ, СГ**

## БАСКЕТБОЛ

### Дзве гульні «Цмокаў»




**9 лістапада мінскі клуб «Цмокі»** правядзе гульню ў чэмпіянаце ВТБ з «Зенітам» (Санкт-Пецярбург). Пачатак у 19:30. 12 лістапада зноўку на «Мінск-Арэне» «Цмокі» прымаюць у рамках «Еўрачэленджу» літоўскі «Шаўляй». Пачатак а 19.

## ГАНДБОЛ

### БГК — «Вардар»

**8 лістапада ў спарткомплексе «Вікторыя» ў Брэсце** мясцовы гандбольны клуб імя Мяшкова прыме македонскі «Вардар». Матч адбудзецца ў рамках балканскай SEHA-лігі. Пачатак а18.

## КАНЦЭРТЫ

### Элтан Джон

**6 лістапада легендарны Элтан Джон** упершыню выступіць у Беларусі. Канцэрт пройдзе на «Мінск-Арэнe» (Пераможцаў, 111). Пачатак а 20.

### N.R.M.

**7 лістапада ў клубе «Піраты» (Партызанскі, 6А)** 20-годдзе адзначае гурт N.R.M. Да святкавання далучацца гурты Tonqixod, «Мутнаевока» і Re1ikt. Пачатак а 19.

### Hok-key

**7 лістапада, у дзень свайго 20-годдзя, гурт Hok-key** выступіць на сцэне Маладзёжнага тэатра эстрады (Маскоўская, 18А) у Мінску.

### «Разбітае сэрца пацана» ў Віцебску

**8 лістапада ў клубе «Паддашак» (Кастрычніцкая, 12)** адбудзецца канцэрт гурту «Разбітае сэрца пацана».

### Re1ikt

**9 лістапада ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** грае гурт Re1ikt. Пачатак а 20.

### Naka ў Магілёве

**9 лістапада ў клубе «Рок-Партал» (пр.Шміта, 46)** адбудзецца канцэрт гурту Naka. Пачатак а 19.

### «Verbum Nobile»

**Опера Станіслава Манюшкі «Verbum Nobile»** («Слова гонару») прагучыць 10 лістапада на сцэне Палаца прафсаюзаў (Незалежнасці, 25). Пачатак а 19.

### Ілюжан

**11 лістапада ў бары «ДК» (Талбухіна, 4)** адбудзецца святочны канцэрт гурту «Ілюжан», прысвечаны 3-годдзю калектыву. Уваход вольны.

## ТЭАТР

### 6 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Лялек** — Пэпі Доўгаяпанчоха
**Опера** — Князь Ігар
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 8 лістапада

**Балет** — Кашчэй Бессмяротны, Шэхеразада
**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Купалаўскі** — Вяселле
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Юнага гледача** — Кот у ботах

### 9 лістапада

**Балет** — Чароўная музыка, Жарптушка, Шэхеразада
**Беларускай драматургіі** — А мне не сорамна!.., Дажыць да прэм'еры
**Купалаўскі** — Вяселле
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 11 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Тата
**Опера** — Набука
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

### 12 лістапада

**Балет** — Жызэль, або Віліcы
**Беларускай драматургіі** — Інтымны дзённік (Дзённік пата)
**Купалаўскі** — Тата
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Юнага гледача** — Пан міністр




## «Лістапад-2014»




### 7 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
12:00 Асноўны конкурс. Фільм адкрыцця: «Я не вярнуся»
15:00 «Двайнік»
19:00 Асноўны конкурс. Фільм адкрыцця: «Я не вярнуся»
23:30 Паўночныя жарсці: «Двайнік»

### 8 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
01:30 Паўночныя жарсці: «Дурная справа нехітрая»
04:00 Паўночныя жарсці: «Тэарэма Зеро»
12:00 Асноўны конкурс: FREE RANGE / «Балада аб адабрэнні свету»
19:00 Асноўны конкурс: «Кіно пра Аляксеева»
21:30 Асноўны конкурс: FREE RANGE / «Балада аб адабрэнні свету»
23:40 Паўночныя жарсці: «Наступны раз я буду цэліцца наўпрост у сэрца»

### 9 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
02:00 Паўночныя жарсці: «Новая сяброўка»
04:30 Паўночныя жарсці: «Мужчына, якога надта моцна любілі»
19:00 Асноўны конкурс: «Сляпыя спатканні»
21:30 Асноўны конкурс: «Помнік Майклу Джэксану»
**Кінатэатр «Дом кіно»**
17:00 Асноўны конкурс: «Кіно пра Аляксеева»

### 10 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
19:00 Асноўны конкурс: «Кукурузная выспа»
21:30 Асноўны конкурс: «Гаспадары»
**Кінатэатр «Піянер»**
19:00 Асноўны конкурс: «Сляпыя спатканні»

### 11 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
19:00 Асноўны конкурс: «Дурань»

### 12 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
19:00 Асноўны конкурс: «Вішнёвы тытунь»
21:30 Асноўны конкурс: «Чорны вугаль, тонкі лёд»
**Кінатэатр «Піянер»**
19:00 Асноўны конкурс: «Дурань»

### 13 Лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
19:00 Асноўны конкурс: «Такія правілы»
21:30 Асноўны конкурс: «Племя»

### 14 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
17:00 Асноўны конкурс: «Кукурузная выспа»
19:00 Асноўны конкурс: «Чорны вугаль, тонкі лёд»
21:30 Асноўны конкурс: «Племя»
00:00 Паўночныя жарсці: «Дзяўчына ноччу гуляе адна»

### 15 лістапада

**Кінатэатр «Цэнтральны»**
02:00 Паўночныя жарсці: «Царства прыгажосці»
04:00 Паўночны жарсці: «Дом распусты»

## ВЫСТАВЫ

### Прафота

**Творчым падсумаваннем Месяца фатаграфіі ў Мінску** стала выстава пераможцаў прэміі праектнай фатаграфіі «Прафота». Гэта прэмія для беларускіх фатографаў, якая прысуджаецца ў дзвюх намінацыях: дакументальная і арт-фатаграфія. Амаль месяц прымаліся заяўкі на ўдзел у конкурсе. Творчыя здабыткі пераможцаў можна пабачыць да 19 лістапада ў творчай прасторы ЦЭХ (Незалежнасці, 58/6).

### Пастулат-2014

**У галерэі «Універсітэт культуры» (пл. Кастрычніцкая, 1)** экспануецца праект «Пастулат-2014», прысвечаны крэслу (па-расейку «стул») як матэрыяльнаму аб'екту і мастацкаму вобразу ў разнастайных жанрах выяўленчага мастацтва. Выстава набывае біенальны фармат і прэзентуе новыя работы беларускіх дызайнераў, мастакоў, фатографаў, якія натхняюцца такім звыклым, але такім неад'емным і прыцягальным аб'ектам для чалавека, як крэсла.

## КІНО

### У пастцы памяці

Перад тым, як я засну
**Жанр:** трылер, дэтэктыў
**Рэжысёр:** Роўэн Жафэ
**У ролях:** Ніколь Кідман, Колін Фёрт, Марк Стронг, Бен Кромптан, Эн-Мары Даф, Адам Леві, Гэбрыэл Стронг
Вялікабрытанія, Францыя, Швецыя, 92 хв.

Кожны ранак апошнія дваццаць гадоў саракагадовай Крысцін Лукас знікаюць з памяці — яна памятае сябе дваццацігадовай і думае, што ў яе ўсё наперадзе. Кожны ранак яна па крупіцах аднаўляе сваё жыццё і вымушана верыць таму, што кажа ёй чалавек, які называецца яе мужам. Кожны ранак Крысцін тэлефануе яе доктар, каб нагадаць пра відэадзённік, і спрабуе дагрукацца да яе ўспамінаў. Найперш — да таго моманту, калі яна атрымала траўму галавы, збітая невядомым мужчынам... Фільм зняты па аднайменным рамане брытанца Стыва Уотсана. Гэта першая кніга пісьменніка адразу стала бестселерам. Аўтар эксплуатуе тэму амнезіі, атрыманай пасля траўмы. Сюжэт раскрывае гісторыю жанчыны, якая пакрысе дазнаецца гісторыю свайго жыцця кожны новы дзень і не памятае, што рабіла ў папярэдні — такое становішча захоўваецца больш за дзесяць гадоў. Разам з гераіняй, якую грае таленавітая Ніколь Кідман, глядач раскрывае падзеі жыцця жанчыны, якія прывялі да амнезіі. Стужка атрымалася захапляльная і напружаная.

**Настасся Уласава**



# Кот як код

Кот можа шмат сказаць пра чалавека... Піша **Таццяна Валодзіна**.

У вёсцы кот быў трэба, каб ратаваць прадукты ад мышэй. У горадзе мышэй няма. Гарадскі кот — стваральнік утульнасці, камфорту.

Кот тут часам замяняе чалавека. Ён проста член сям'і.

### Унутраны кот

Адзін час інтэрнэт-прастору запоўніў мем на гэту тэму: «Беражы свайго ўнутранага ката», г.зн. унутраную сутнасць, сапраўдную, жывую, непасрэдную, не задушаную нормамі і правіламі.

Псіхолагі мяркуюць, што такое ўспрыманне ката абапіраецца на тое, што чалавек бачыць у ім тыя якасці, якія старанна хавае ў сабе, але якія застаюцца прывабнымі: пяшчоту, ляноту, незалежнасць, свабоду, сваволю. Яго проста любяць — ні за што — і ўсё даруюць. Хто б так не хацеў?

Кот застаецца для нас ідэалам існавання ва ўласным рытме, а не падпарадкавання складанаму механізму сучаснага жыцця.

Дый не толькі ў гарадах, але і ў вёсцы часта кот — адзіны верны спадарожнік пакінутых дажываць свой век бабуль.

### Кацін бог і сабачы бог

Некаторыя з сучасных «кацін» трэндаў выраслі з міфалагічных уяўленняў пра ката. У легендах беларусаў кот створаны Творцам нават перш за чалавека, які і патрэбен быў, бо «ніхто яго (ката) не паласкае, ніхто яго не пакорміць».

Ласкавы характар ката і яго ўтульнае вуркатанне ў процістаўленні сабаку выйгралі для ката ў традыцыйным сялянскім побыце выгаднае становішча. Нібыта Бог вызначыў сабаку за яго гучнае гаўканне «пад сталом ляжаць», а кату — «на куце».

**Таццяна Валодзіна**

нар. 1968, родам з Лепельшчыны. Фалькларыст, доктар філалагічных навук. Працуе ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук.



У беларусаў вядомы і варыянт легенды пра паходжанне ката з чалавека: гэты той цікаўны, што падштурхоўваў сябра, якому Бог даручыў аднесці ў моры мяшок з вужамі, мухамі і мышамі. Празмерна цікаўных Бог ператварыў у бусла і ката,аднаму збіраць вужоў, іншаму — мышэй.

У вуркатанні ката, казалі на Лідчыне, чуліся малітвы — «кот пацеры гаворыць», толькі вось моліцца ён «па-жыдоўску».

Паказальныя паведамленні пра з'яўленне катоў у момант найвышэйшага напружання пры сустрэчы светаў — падчас трапляння душы на суд да Усявышняга.

У Клімавіцкім раёне запісаная легенда, паводле якой перш за Бога душу чалавека сустрэнуць «кацін бог» і «сабачы бог», якія прапускаюць душу чалавека да брамы раю. Таму біць катоў і сабак няможна.

Паводле іншай легенды, менавіта кот захаваў жытні каласок падчас патопу: «Стаў лапачкаю і захаваў гэтае зярно, і адсюль пайшоў хлеб».

### Кот як дзіця

Аднак у традыцыйнай культуры беларусаў ёсць сфера, у якой чалавек і кот не проста датыкаюцца, а практычна зліваюцца. Уяўленні і звычаі сферы народнай педыятрыі паказваюць на злучанасць немаўляці (яшчэ да яго нараджэння) і ката ў адзінае цэлае: яны атаясамліваюцца на падставе іх падкрэслена межавага становішча паміж дзікім і асвоеным светам. Яны, з аднаго боку, адарваныя ад прыроды, з іншага — не ўмеюць гаварыць, толькі «мяўкаюць», не ўмеюць рэгуляваць фізіялагічныя патрэбы і г.д.

Такая сувязь лагічная, бо катоў трымалі ў кожнай сялянскай хаце, гэта была першая жывёла, з якой знаёмілася дзіця. Менавіта кот — найбольш часты і любімы персанаж калыханак, забаўлянак і дзіцячага фальклору ў цэлым.

Нават само паняцце калыханкі ў беларусаў перадавалася праз вобраз ката — спяваць ката. «Коцікі абодва, — спявалася, — шары-белы абодва, палягалі абодва, спатанькі абодва».

Так, пад успамін пра сонных коцікаў, засынала і дзіця.

### Кацін век

З катом атаясамліваўся і стары чалавек. «Каціным векам» называлі на Лепельшчыне апошнія дзесяць-дваццаць гадоў жыцця старога: «Вось жыве чалавек, і вы, дапусцім, свае гады — росквіт, ні заботы, нічога. А тады жаніўся ці замуж — конскі век жыве, упрогся і цягне воз. Калі ж дзеці падрэслі, нада ім хаты будаваць, жыве каровін век, пачынаюць яго даіць. Сабачы век, гэта ўжо на семдзесят гадоў ён стаў жыць, ужо дзеці забіраюць дабро іх старажыць да сябе. А калі 90 ды 100 — гэта ўжо кацін век. Вось мы і шкадуем ката, і носім. А хто пажалее, а хто і каршня дасць. Так і старому».

Паводле народных уяўленняў, у вобразе ката часам з'яўлялася душа памерлага чалавека. Адбывалася гэта, бо ката суадносілі з хатнім духам.

### Галаўнейшы за гаспадароў

Ката клалі ў калыску перш, чым пакласці туды дзіця. Ката таксама першым пускалі ў хату і нават у дамавіну. Менавіта кот неаднаразова згадваецца як будаўнічая ахвяра, а звычай першым пускаць ката ў новую кватэру жывы і па сёння нават у Мінску.

У народнай традыцыі кот і чалавек узаемна перасякаюцца ў адрэзках жыццёвага цыклу — маленстве і старасці, г.зн. тых этапах, дзе светы яшчэ ці ўжо не разведзеныя катэгарычна.

Статус ката ў гарадской хаце ўздымаецца над статусам гаспадароў, як у тым анекдоце пра ката і сабаку, дзе кот прыходзіць да высновы: «Мусіць, я бог».

**In memoriam**

## Ларыса Касцюкавец

Народную песню Ларыса Піліпаўна вывучала з юнацтва і да апошняга дня. Прычым не ў бібліятэцы, а ў полі, у экспедыцыях. Кожнае лета яна выязджала разам са студэнтамі Беларускай акадэміі музыкі на збор песень у розныя куткі Беларусі. Знаёміліся з народнымі спявачкамі — захавальніцамі векавых традыцый. Былі такія, што ведалі 100 і болей песень, і мы — сябры экспедыцыі — хадзілі да іх 5-6 разоў, каб усё запісаць.

Песні былі розныя: каляндарна-абрадавыя, жніўныя, вясельныя, календы, духоўныя вершы, балады.

Запісвалі толькі аўтэнтычны матэрыял, а не псеўданародныя лубочныя «Лявоніхі», якія ўвесь час гучалі па радыё. І толькі на цвярозую галаву — п'янага спявання даследчыца не цярпела. У лепшыя гады прывозілі з экспедыцыі да 600—800 песень. Усё гэтае багацце назапашвалася ў кабінеце народнай музыкі ў выглядзе гуказапісу і нот.

Але не толькі песнямі вабілі гэтыя паездкі. Ларыса Піліпаўна была надзвычай цікавым чалавекам. Як цудоўна было з ёю блукаць па лясах і палях, аглядаць руіны замкаў, сядзець увечары ля вогнішча! Яна была выдатным знаўцам раслін, грыбоў, метэаралагічных з'яў, бліскуча ведала гісторыю роднага краю, нават умела варажыць.

Яна пакінула пасля сябе мноства ўдзячных вучняў, якія на ўсё жыццё запомнілі яе ўрокі палеаграфіі і фальклору. А таксама ўрокі дабрыні і абсалютнай сумленнасці — у навуцы і ў жыцці.

Дастаткова згадаць яе першую кнігу — «Кантовая культура Белоруссии», — якая выйшла ў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1975 годзе.

Кант — гэта гарадская песня XVI—XVIII стагоддзяў, найбольш папулярны жанр тагачаснай «вучонай» паэзіі і музыкі. І само яго бытаванне на беларускай зямлі адразу перакрэслівала байкі, якімі кармілі нас імперская ідэолагі: маўляў, беларуская культура да 1917 года была скрозь сялянская і прымітыўная, нотнай граматы не было і г.д. А тут высветлілася, што гарадская паэзія і музыка, нотная пісьменнасць і іншыя прыкметы высокай культуры з'явіліся спачатку ў Вялікім Княстве Літоўскім, а адсюль ужо праз беларускіх асветнікаў трапілі ў Расію, а не наадварот. Гэта была сапраўдная сенсацыя.



**Юлія Андрэева, Наталля Ляжнёва (у кепцы), Ларыса Піліпаўна (справа). У цэнтры — народная спявачка. Мядзельскі раён, 1988**

Захапленне беларускім кантам Ларыса Касцюкавец пранесла праз усё жыццё. У 2006—2008 гадах у выдавецтве Беларускай акадэміі музыкі выйшла яе двухтомная манаграфія «Стилистика канта и ее претворение в белорусской народной песне». І зноў сенсацыя: раптам аказалася, што ў Беларусі «вучоная», аўтарская паэзія і музыка ўплывала на народную, а не наадварот.

У яе ў галаве было столькі песень — не толькі народных. Вострыя розум і язык, досціп, незалежнасць характару... і шчырая любоў да студэнтаў. Яна заўсёды размаўляла з намі на роўных і, бывала, падкормлівала за свае грошы ў вясковых харчэўнях.

Такая яна была і такой застанецца ў памяці. Задорная і заўжды маладая душой руплівіца на ніве беларускай культуры. Светлая ёй памяць!

**Юлія Андрэева**

## Міхась Белямук



У амерыканскім Клiўлендзе 31 кастрычніка памёр беларускі дзеяч Міхась Белямук. Ён пражыў 90 гадоў.

Міхась Белямук нарадзіўся 15 сакавіка 1924 г. у в. Голя (сёння гэта Камянецкі раён Брэсцкай вобласці). Ад лета 1944 г. — на эміграцыі.

Выйшаўшы на пенсію, выдаваў у ЗША гістарычны часопіс на беларускай мове «Полацак». Пакінуў успаміны («Свайго лёсу не мінеш», Вільня, 2006).

# Плюх. Медычны аповед

Піша **Мікіта Волкаў**.

Штучнае святло аперацыйнай раздражняла і муляла вочы. Старая санітарка вадзіла анучай па чорнай абіўцы крэсла, трымаючыся за металёвую падстаўку для каленяў і нешта мармычучы сабе пад нос. Леваруч ад яе, за столікам, завіхалася тоўстая медсястра, распакоўваючы блiскучыя пакункі з інструментамі і рыхтуючы ін'екцыі. За ёй ля шафы з расчыненымі дзверцамі стаяла маладая дакторка. Яна выбірала сабе празрыстыя фартух і прымярала акуляры. Дзверы адчыніліся, і з цемры калідора выйшлі дзве дзяўчынкі ў халатах і белых каптурыках з маскамі на тварах. Абедзве былі крыху маладзейшыя за дакторку ў акулярах.

— Добры дзень. Мы студэнты на практыцы і хацелі б ...

— Ясна, — абарвала іх тоўстая медсястра, — станьце каля сцэначкі і назірайце, хутка ўжо пачнем, толькі не замінайце доктару. Вы лепш скажыце: ці сядзяць там на калідоры нашы жанчынкі?

— Так. Сядзяць і многа.

Медсястра ўзяла жоўтымі пальцамі гісторыі хваробы і сваім ці то фарынгітным, ці то пракураным голасам мовіла:

— Лепш не стойце дарэмна, ідзіце і паклічце пацыентку Данілюк.

Але дзяўчаты нікуды не выходзілі, яны былі тут першы дзень і яшчэ не маглі сябе паводзіць так вольна, як медсястра, якая ім здалася маццёрай тут.

Раптам расчыніліся дзверы, і ў маніпуляцыйную ўвайшоў худзенькі, крыху ссутулены малады анестэзіёлаг. Дзеля прыліку ён абыякава прывітаўся і апусціў вочы долу. Ён чакаў работы.

— Сяргей Пятровіч, мы ўсе вас ужо зачакаліся — ну майце сумленне, дзе ж вы бадзяецеся, — тарахцела медсястра, але не паспела скончыць, бо дзверы зноў расчыніліся.

На парозе стаяла зусім маладая жанчына ў цёмна-чырвоным, амаль барвовым халаце. Яе русыя валасы былі сабраныя ў куклу, выдаючы нейкую дзіўную выпнутасць ілба.

— Вы Данілюк? — спыталася медсястра

— Так.

— Не стойце на парозе, заходзьце і скідвайце халат. Ці, можа, перадумалі? У нас і без вас зашмат работы, а вы яшчэ вагаецеся.

— Жанчына, кладзіцеся, — анестэзіёлаг нарэшце пераняў эстафету і працягнуў: — Алергія, сутаргавы сіндром, эпілепсія — мо штосьці з гэтага маеце?

Маладзіца здымала халат, затым чырвоныя карункавыя майткі і адмоўна вадзіла галавою. Яна неяк паволі, быццам кульгаючы, ішла да крэсла, на якое ёй указвала старая санітарка сваёй анучай.

— Оздзі-во, сюды лажыса, мая дзеўчына, — крактала санітарка, працягваючы вадзіць анучай па невялічкіх шафках з хірургічным рыштункам.

Пацыентка, скрывіўшы вусны, быццам ад гаркачэчы, села на крэсла і затым паклала ногі на металёвыя жалабы.

Пакуль яна рыхтавалася, анестэзіёлаг аглядаў цёмны калідор. На ўслонах сядзелі розныя жанчыны: маладзіцы, кабеты, цёткі, старэйшыя і маладзейшыя, вясковыя і гарадскія. Усе яны ўтваралі сабой каманду, адзін гулец якой увайшоў на поле і прыходзіць адмысловае выпрабаванне.

— Ну і работы ў вас сёння! А я пасля сутак, выспацца мне ўжо не наканавана, — праціраючы акуляры, гаварыў Сяргей.

— Ну, вы скажаце, вы проста ў нас яшчэ не працавалі, для нас гэта яшчэ мала. Гляньце на Маргарыту, яна толькі першы год працуе, а ўсё ўжо без старэйшых дактароў робіць і не наракае.

Маргарыта, малады акушэргінеколаг, завіхалася з практыканткамі. Яна часу дарэмна не губляла, а паказвала практыканткам асновы пахвавага даследавання. Практыканткі адна за адной зазіралі ў тое самае месца, адкуль паходзіць чалавечы род, і слухалі, як правільна «ўваходзіць люстэркамі», санітарка ціхмяна стала ў куце,нешта мармычучы.

— Не перадумалі? — Маргарыта, паглядаючы на студэнтак, усмешліва пыталася.

Дзяўчына, разумеючы пытанне, адмоўна пахітала галавой, заплюшчыла вочы і моцна сціснула сківіцы — медсястра ўводзіла лякарства. Цела рабілася нерухомым, апроч ступняў, якія вымалёўвалі ў прасторы дзівосныя кругі малой амплітуды і інтэнсіўнасці. Калі падрыхтоўка скончылася, дзяўчына на імгненне зірнула на выхаду, а затым прымружылася.

Анестэзіёлаг глядзеў на гадзіннік і нешта лічыў, затым глянуў на дзяўчыну і станоўча кіўнуў галавой дактарыцы:

— Можаце пачынаць!

Прыняўшы гэтыя словы да дзеяння, дактарка адхіснулася ад кален дзяўчыны, за якія трымалася, размаўляючы са студэнтамі:

— Да якога тэрміну можна аборт рабіць выскабліваннем? Што, не ведаеце? Чаго маўчыцё? — выбіраючы патрэбны інструмент, мовіла дактарка.

Дзве практыканткі моўчкі пазіралі на хірургічны рыштунак. Яшчэ зусім не абазнаныя ў гінекалогіі, яны няўцямна разглядалі металёвыя палачкі рознай формы і даўжыні. Адну з іх, больш падобную на вязальную спіцу, дактарка ўзяла ў рукі.

## Роўна праз год вы прыйдзеце да нас і будзеце рабіць тое ж, што і мы

— Ну што, не ведаеце? — дактарка ўхмыльнулася. — А гэта што? — трымаючы спіцу перад сабой, пыталася ўрач і, не чакаючы адказу, працягвала: — Гэта зонд, якім даўжыню маткі правяраюць.

Затым яна ўзяла прылады, падобныя да нажніц, і заціснула імі губы шыйкі маткі і мовіла студэнтцы, якая стаяла праваруч:

— Трымай, будзеш маім першым асістэнтам. Галоўнае, не варушыцца і не дрыжаць.

Спіцай увайшла ў матку, праверыўшы яе на даўжыню. Затым пачала ўторкваць металёвыя палачкі, спачатку вузейшыя, затым больш шырокія.

— Гэта пашыральнікі Гегара, трэба ж нам пашырыць канал, каб выскрабці ўсё дашчэнту.

Пацыентка ляжала ціха, анестэзіёлаг «спаў галавой», медсястра назірала, а санітарка гугнявіла штосьці ў куце, узнікала адчуванне, што яна малілася. Дакторка ўзяла кюрэтку, якая таксама нагадвала спіцу, але мела на канцы вострую закраіну, якой можна было зразаць і выскрабаць усё непатрэбнае і непажаданае.

— Ну, дзеці, пачынаем. Толькі трымайце люстэркі і шчыпцы цвёрда, а то матку і пратнуць можна.

«Плюх — плёх —плюх» — рэчыва сцякала ўніз па металёвай паверхні і плюхалася ў бліскучае ёмішча. Рука ў пальчатцы спрытна выскрабала металёвай пятлей-кюрэткай усё, на што натыркалася. Усё, што лічыла лішнім. Далёка не ўся крывавая маса трапляла ў ёмішча, значная частка яе заставалася на сцёгнах, на палавых губах.

— Ай, ая-яй... — застагнала пацыентка.

— Трымайце яе, Валянціна Іванаўна, мне ўсё ж яшчэ працаваць, — высокім,піскпявым галасочкам прасіла дактарка медсястру.

Тоўстая няўклюдная медсястра навалілася ўсім целам на калені пацыенткі, дастала ручнік, махры якога тырчалі з кішэні халата і акрыла ім яе рот.Дактарка між тым працягвала.

Рудыя кудзеркі валасоў вытыркаліся з-пад высокага белага каптурыка, а даўгаваты нос як бы паўтараў рухі рукі, якая кругам хадзіла, па матцы кюрэткай. Крыху высунуты язык выдаваў ейную засяроджанасць. Доктарка працавала першы год. Аборт быў таксама для яе першым, і яго трэба было выканаць бліскуча. Не схібіць перад калегамі, якія стаялі побач і назіралі.

Пацыентка працягвала рухаць сцёгнамі і стагнаць. Асабліва гучна — калі пятля ўваходзіла глыбей. Яна была без прытомнасці, але раз-пораз расплюшчвала вочы і выкрыквала нешта невымоўнае. Медсястра трымала яе.

— Сяргей, ну зрабіце штонебудзь з гэтай крыкухай, яшчэ крыху — і я заканчваю.

Анестэзіёлаг шапнуў нешта сястры, і тая пачала запраўляць укол. Рукі паненкі былі разведзеныя шырэй за сцёгны, яна была што ўкрыжаваная. Ейныя стогны нагадвалі калыханні маятніка, яны то ўзмацняліся, сягаючы найвышэйшых частотаў, то паніжаліся.

Між тым рэчыва пачынала радзець і ўтварала бурбалкі, падаючы на бочкападобны латок. Рухі сталі шырэйшымі, вальнейшымі. Дакторка выскрабала апошняе.

— Студэнты, ці чуеце скрып палазоў? Гэта значыць — канец. Прыехалі! — мовіла яна і, зняўшы завэзганы крывёю фартух, неахайна кінула яго ад сябе ў кут, да іншых брудных ануч.

Дакторка трыумфавала. Яе вочы загарэліся радасцю і ўпэўненасцю. Яна накіравалася да выхаду.

— Ну што, хадзем гісторыю хваробы пісаць, ад пісаніны нас ніхто не вызваляў.

На калідоры стаяў стол з гісторыямі хваробаў, за які паселі маладыя медыкі.

— І трэба ж так, такое супадзенне! Рабіла аборт поўнай цёзцы — Данілюк Маргарыце Алегаўне — і з года майго, 1991. Ну і бывае ж. І першая ейная цяжарнасць, і, дарэчы, мой першы першы ў жыцці аборт.

З вялікай аперацыйнай выйшла загадчыца аддзялення. Толькі што з аперацыі, струджаная, але шчаслівая добрым сыходам, яна прывітала маладую калегу.

— Як справы, Рытка, усё ўдалося?

— Так, Зінаіда Георгіеўна, за 10 хвілін усё выскрабла.

— Што ж, віншую, баявыя хрэсьбіны ты ўжо прайшла. А вам, студэнты, ці спадабалася ў нас?

Практыканткі моўчкі паківалі галовамі. Ім карцела ўжо ісці дадому.

— Роўна праз год вы прыйдзеце да нас і будзеце рабіць тое ж, што і мы, а пачнеце вы з аборту. Добра, на сёння для вас усё, бяжыце, дзяўчаткі, вашы кавалеры ўжо змарнелі без вас. Толькі на прэзерватывы не забудзьцеся, каб нашымі пацыенткамі не стаць, — грубым голасам весела выдавала дасведчаная загадчыца аддзялення.

Усе выбухнулі рогатам. Не смяялася хіба што старая санітарка, якая ад вялікай колькасці гадоў не ўсё і дачула. Тым часам дзяўчына ў аперацыйнай апрытомнела. Гэта заўважыла старая і пакрысе пакульгала па яе. Галоўны абавязак санітаркі — суправаджаць пацыентак назад у палату. Праз хвіліну дзяўчына саступіла месца другой жанчыне ў чарзе на аборт, якая чакала на калідоры. Дзяўчына абхапіла старую за шыю, і яны ціхенька пакрочылі. Дзяўчыну вадзіла ў косікі, яна хісталася, бо ўсё яшчэ была пад уздзеяннем лекаў. Але старая мужна і ўстойліва вяла яе да палаты. Яна не заўважала і, канечне, не магла адчуваць крыві, якая цуркам збягала па сцёгнах, яна не бачыла чырвоных плямаў на падлозе.

— Стойце, — крыкнула медсястра. І, узяўшы белы ручнік, мокры ад возгаў і слёз, што прынесла з сабой пацыентка, бегла да дзяўчыны і санітаркі.

— Сямёнаўна, на, прасунь ёй між сцёгнаў, бо кроў ідзе, — сказала медсястра і пабегла назад, рыхтаваца да чарговай працэдуры.

Дзяўчына больш не плакала, яна ціхенька падсмейвалася і нешта мармытала, гледзячы на старую. Ручнік чырванеў, ужо амаль не было адрозненняў паміж яго колерам і колерам халата.



**Мікіта Волкаў**

нарадзіўся ў Барысаве. Студэнт Беларускага дзяржаўнага медычнага ўніверсітэта. Выпускнік Школы маладога літаратара. «НН» друкавала яго апавяданне «Надзея, вера і любоў».

---

Міхась Скобла.
**Адказ кардынала**



Бабулі тры, дзядок і маладзіца
Прыйшлі да кардынала на прыймо.
— Вялебны, нам не есца і не спіцца —
На рускай мове хочам мы маліцца,
На мове іншай рады не дамо!

Паслаў нас ксёндз,
і храм у нас ёсць новы,
І на алтар сабралі капітал…
— Ваш ксёндз —
такі любіцель рускай мовы? —
Спытаўся, памаўчаўшы, кардынал.

— О, Ваша эмінэнцыя, любіцель!
А ў мове беларускай — ні гу-гу.
Ды дбае так пра нашую абіцель…
І кардынал сказаў: дапамагу.

А што далей? Храм узвышаўся новы,
У ім жылі малітва і любоў.
А менскі ксёндз, аматар рускай мовы,
Служыць паехаў некуды ў Тамбоў.

---

Святлана Куль
**Сябры мае, дзяды**



Як птушкі з заблуканай чарады,
З дажджамі прылятаюць успаміны:
Сябры мае цяпер ужо Дзяды,
Я ў лістападзе клікаць іх павінна.

Я памятаю вочы і хаду,
Як усміхаўся, слоўцы і мянушкі,
Няўмольна папаўняюць чараду
Мая туга, мае ўспаміны-птушкі.

Пакуль жыву, я буду клікаць іх,
Не верачы ў апошняе растанне,
Маіх сяброў — любімых і жывых.
Паклічце іх, калі мяне не стане.



Адзін з юнакоў святкаваў Хэлоўіну Мінску ў масцы Пуціна. Хэлоўін – дзень нячыстай сілы. Звычайна ў гэты дзень пераўвасабляюцца ва ўсякіх страшыдлаў.

СЯРГЕЙ ЗІНІН




СЯРГЕЙ ЗІНІН

1 лістапада ў Мінску прайшоў XXXV з'езд Саюза Камуністычных партый — КПСС. У Беларусь прыехалі 117 дэлегатаў ад 17 камуністычных партый. У залу ўрачыста ўнеслі сцяг перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, сцяг СКП-КПСС, сцяг Кампартыі Беларусі і сцяг Беларусі. Прагучаў гімн СССР. На фота: лідары кампартый Расіі, Беларусі і Украіны Генадзь Зюганаў (у цэнтры), Ігар Карпенка (другі злева), Пятро Сіманенка (крайні справа).



14-гадовага арангутанга абследуюць у інданезійскім Sumatran Orangutan Conservation Center. Каля 280 рэдкіх чалавекападобных малпаў знаходзяцца ў цэнтры, супрацоўнікі якога спрабуюць выратаваць папуляцыю арангутангаў.



На фестывалі інавацый Pioneers Festival у Вене публіцы паказалі сапраўдны лятаючы аўтамабіль. Ён развівае хуткасць да 160 км/г на зямлі і 200 км/г у небе. Адной з асаблівасцяў аэрамабіля з'яўляецца тое, што ён здольны перасоўвацца па непадрыхтаванай мясцовасці. Для ўзлёту яму дастаткова толькі 50 метраў адкрытай прасторы.



## Анекдоты і жарты

* * *

У сувязі з неабходнасцю да 1 снежня выявіць усіх дармаедаў на ўсіх прадпрыемствах краіны ўводзіцца новая штатная адзінка: адказны за дармаедства.

* * *

У Мінску смог. Карыстаючыся выпадкам, павесіў на балконе кумпяк і кілбасы.

* * *

— Пятро, ты сто кілаграм падымеш?
— Ну, я ж неяк устаю раніцай.

* * *

— Дзеці, я ў краму. Сядзіце ціха, акно не адчыняць.
— Бо снег ужо выпаў?
— Бо дзед ужо выпаў.

* * *

Славакі паказалі лятаючы аўтамабіль. А беларусы — лятаючы трактар.

* * *

– Мама, заўтра бацькоўскі сход. Пойдзеш?
– Не, сынок, лепш мы на гэтыя грошы з табой у Егіпет злётаем.

* * *

Шахматыст гуляў па парку з дзяўчынай, калі на іх напалі хуліганы. Ацаніўшы сітуацыю, ён вырашыў ахвяраваць каралеву.

* * *

На Хэлоўін адзенуся ў касцюм рубля, нап'юся і буду ўвесь вечар падаць.

* * *

Пра тое, што я ўсё жыццё буду баяцца пераменаў, мая мама здагадвалася яшчэ на адзінаццатым месяцы цяжарнасці.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Невясёлая гэта новая гадаўшчына народзін «Нашай Нівы».** У цяжкі сумны час надышла яна. Ліюцца рэкі крыві. Сотні, тысячы ваякаў косіць вайна кожны дзень сваёй вострай касой. А па ўсёй нашай старонцы, што гэтак многа ахвяр аддала вайне людзьмі і багаццем, пануе смутак. І ў дзень, калі, здаецца, трэба цешыцца, што-ткі, нягледзячы на ўсё, «Жыве Беларусь!», — у гэты дзень няма месца для ўцехі.

**«НН». №44. 1914.**

**Месіянскі выбар Амерыкі.** У адрозненне ад Еўропы, у Амерыцы вера чалавека — зусім не прыватная справа кожнага, і тым больш прэзідэнта. Амерыканцы вераць у Бога і сусветную місію ЗША. Выбар Джорджа Уокера Буша, серадняка ва ўсім, акрамя палымянай веры ў Амерыку і яе каштоўнасці, — гэта выбар грамадзянамі ЗША месіянскай ролі для сваёй краіны.

**«НН». №41. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 04.11.2014.
Замова №4450.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14041